

№ 33 (50)

Верасень 2004 года

# Краязнаучая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года


## У нумары:



## Бераг Кірылы прымае гасцей Дня беларускага пісьменства



На здымку Міколы Котава – музей у СШ № 2 г. Турава

## Выстава ікон на камянях

Пастаянна дзеючая выстава ікон, выканaных на камені, «Дастойна ёсць...» з'явілася непадалёку ад урочышча Курапаты ў Мінску. Экспазіцыя выканана іканапісцам, мастаком Анатолем Кузняцовым.

НА ЗДЫМКУ: адна з ікон выставы «Дастойна ёсць...»



***Вельмі прыемна, што менавіта праз вашу газету жыхары Беларусі маюць добрую магчымасць пазнаёміцца з цікавымі матэрыяламі, даведацца пра мінулае не толькі сваёй мясцовасці, але і іншых куточкаў нашай Беларусі. За кароткі час існавання ваша газета знайшла свайго чытача і ў сценах Кармянскай цэнтральнай бібліятэкі Гомельскай вобласці.***

## Мы з Кармы

Нягледзячы на тое, што Кармянскі раён знаходзіцца ў баку ад скрыжаванняў вялікіх дарог, нашы землякі жывуць па ўсёй Беларусі. Дзе б чалавек ні быў, куды б яго ні закінуў лёс, сваімі думкамі, жаданнямі ён заўсёды з родным краем. Хочацца, каб яны разам з намі раздзялілі радасць з нагоды 80-гадовага юбілею раёна (17 ліпеня 1924 г.). Немагчыма не палюбіць зямлю, на якой нарадзіўся.

Землі Кармяншчыны ў мінулым уваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага, Расійскай імперыі. З пакалення ў пакаленне перадаецца кармянцамі легенда пра падарожжа праз мястэчка Карма імператрыцы Кацярыны II.

У самым пачатку свайго існавання Кармянскі раён аб'ядноўваў 159 населеных пунктаў, дзе пражывала каля 70 тыс. чалавек. Кармяншчына ішла ў нагу з усёй краінай, перажываючы змены і пераўтварэнні ў сельскай гаспадарцы, і адначасова жыла сваім асабістым жыццём...

З сярэдзіны жніўня 1941-га па канец лістапада 1943-га Кармянскі раён знаходзіўся пад фашысцкай акупацыяй. Жыхары мужна сустрэлі ворага на сваёй зямлі і за яе межамі. Імёны загінулых землякоў увекавечаны ўдзячнымі кармянцамі ў помніках і абеліскаx, мемарыяльных плітах, назвах вуліц. Памяць – гэта святыня. Спыняюцца людзі ля танка, пастаўленага на п'едэстал у гонар воінскіх часцей, якія вызвалялі наш раён, ускладаюць кветкі да мемарыяльных пліт з імёнамі воінаў-афганцаў А.І. Кашпарава, М.М. Перапечкіна, В.М. Саломчанкі. Свята помняць землякі ўраджэнцаў Кармяншчыны – А.А. Філімонава, П.У. Несцяровіча, П.В. Мажэйку, удастоеных высокага звання Героя Савецкага Саюза за мужнасць і гераізм, праяўлены імі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Нягледзячы на цяжкасці пасляваенных гадоў, працаўнікі раёна ўнеслі свой асабісты ўклад у развіццё ўсіх сфер грамадскага жыцця Кармяншчыны. Наша зямля заўсёды славілася працавітымі людзьмі. Аб гэтым сведчаць імены Герояў Сацыялістычнай Працы М.А. Караткевіча, М.А. Дзмітрыева, І.Ц. Шанькова, К.К. Нікіціна. У пачатку 80-х гадоў XX ст. раён заняў III месца ў рэспубліцы па вытворчасці ільну, быў узнагароджаны дыпломам ЦК КПСС, Савета Міністраў СССР, ВЦСПС і ЦК ВЛКСМ.

Шмат нарадзіла кармянская зямля вучоных (М.Д. Несцяровіч, С.Х. Карпянкоў, Л.М. Давыдзенка, Л.А. Сасноўскі, У.А. Кулажанка, Р.І. Лашкевіч, У.І. Міроненка, А.П. Пімашэнка), дзеячаў культуры (В.В. Смірноў, А.К. Семілетава), ваенных (П.Ц. Бандарэнка, Т.Л. Уласаў, А.В. Яцкевіч).

З нашым раёнам звязаны лёсам імёны Герояў Савецкага Саюза М.Г. Калінкіна, М.С. Цыбульскага, М.М. Шыкіна, С.Л. Ушакова, дзеяча рэвалюцыйнага руху П.М. Лепяшынскага, касманаўта-выпрабавальніка А.У. Шчукіна, кінаактрысы Л.В. Марчанкі, пісьменніка В.Ю. Ткачова.

У кагорту беларускіх літаратараў выйшлі і сталі членамі Саюза пісьменнікаў А. Дзеружынскі, А. Астапенка, І. Клімянкоў. Афіцыйнае і грамадскае прызнанне атрымалі паэт-сатырык В. Маеўскі і партызанскі паэт М. Хілінскі. Усіх іх аб'ядноўвае «малая радзіма» – Кармянскі раён.

Вялікай падзеяй для ўсіх жыхароў Кармяншчыны стаў выхад кнігі «Памяць», дзе адлюстраваны старонкі гісторыі Кармяншчыны, значныя падзеі, вядомыя людзі, якія зберaглі і праславілі гэту зямлю, навечна застануцца ў сэрцах землякоў.

Мінаюць гады, падзеі змяняюць адна другую. І наш раён упэўнена крочыць у будучыню. Узрост не старыць яго, а маладзіць. Любяць кармянцы свой раён, ганарацца яго поспехамі, славутымі людзьмі, робяць усё, каб ён з кожным годам прыгажэў, станавіўся добраўпарадкаваным.

Жадаем і вашай газеце далейшых поспехаў і плённай працы на ніве краязнаўства.

З павагай –

***К. ЯКУТОВІЧ, бібліятэкар-краязнаўца Кармянскай ЦБ***

## Мова – душа, Пісьменнасць – аблічча народа

У 1990-я гады я часта з дэлегацыяй вучоных, пісьменнікаў, артыстаў, мастакоў, святароў па некалькі дзён браў удзел у правядзенні Дзён беларускага пісьменства і друку. Мы аб'ездзілі шмат нашых гістарычных мясцін, выступалі на вечарынах і канферэнцыях у вясковых клубах і раённых Дамах культуры, у школах, а таксама і ў цэрквах перад вернікамі, дзе мы разам са святарамі гаварылі пра духоўнасць і культуру, толькі мы, свецкія, якія суправаджалі дабрадайны агонь, запалены ў святых мясцінах, яшчэ падкрэслівалі вялікую важнасць у гэтай справе беларускай мовы і кнігі. Трэба аддаць належнае: гаспадары, святары, адносіліся да нас прыязна (усё ж у Мінску нас, паломнікаў, у галоўным праваслаўным храме блаславіў у паход сам Уладыка Філарэт), толькі, мушу сказаць праўду, не хацеў не толькі прымаць, але і выступіў супраць беларускай мовы полацкі епіскап Глеб, здаецца, нядаўна перад гэтым «папрошаны» з Украіны. Пасля, калі некаторыя з нас пачалі моўчкі выходзіць з царквы, успомніў, што Бог наказаў павагу і любоў, паправіўся, што беларуская мова – таксама мова, але толькі для свецкасці. Але, паўтаруся, у астатніх шматлікіх выпадках былі ўзаемапавага і разуменне.

(Заканчэнне на стар. 3)


**Шаноўныя сябры! Падпісвайцеся на нашу газету на IV квартал**

**Падпісны індэкс:** індывідуальны – 63320; ведамасны – 633202

**Кошт на 1 месяц:** індывідуальны – 3 320 рублёў; ведамасны – 3 439 рублёў

Падпіска ў рэдакцыі – 2 520 рублёў на месяц





# Мовы ВКЛ і сучаснай Еўропы

***На філалагічным факультэце Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А. С. Пушкіна прайшла IV Міжнародная навуковая канферэнцыя «Мовы ў Вялікім княстве Літоўскім і краінах сучаснай Цэнтральнай і Усходняй Еўропы: традыцыі і пераемнасць», арганізаваная кафедрамі гісторыі беларускай мовы і дыялекталогіі (БрДУ), гісторыі беларускай мовы (Белдзяржуніверсітэт), усходнеславянскай і балтыйскай філалогіі (Будапешт, універсітэт імя Л. Этвеша). Канферэнцыя з'явілася працягам традыцыі правядзення ранейшых форумаў, якія адбыліся ў Будапешце ў 1996, 1998 і 2000 гадах і паступова акрэслілі сваю праблематыку як рознабаковае даследаванне моў шырокага цэнтральна- і ўсходнееўрапейскага арэала з асаблівай увагай да гістарычных аспектаў.***

Навуковая частка канферэнцыі была арганізавана ў рамках 11 секцый: «Мовы Вялікага княства Літоўскага», «Тэкст і кантэкст», «Лексікалогія і тэрміналогія», «Лексічныя запазычанні», «Этналінгвістыка і лінгвакультуралогія», «Марфалогія і словаўтварэнне», «Гісторыя і культуралогія», «Моўная адзінка і кантэкст», «Славянская фразеалогія», «Праблемы анамастыкі» і «Літаратуразнаўства».

Значнае месца на пасяджэнні першай секцыі канферэнцыі занялі даклады, якія асвятлялі моўныя пытанні ў іх сувязі з канфесійнымі. Так, З. Абрамовіч (Беласток, Польшча) прачытала даклад аб літургічных мовах і нацыянальных анімічных сістэмах. Спосабы падыходаў да вырашэння моўных пытанняў уніяцкай царквой і выкарыстанне ёю царкоўнаславянскай мовы сталі тэмай выступленняў маладых даследчыкаў В. Бобрыка (Седльцэ, Польшча) і А. Сушы (Мінск). І. Будзько на прыкладзе «Собрания припадковь...» (Супрасль, 1722) разглядала праблему двухмоўнага характару старабеларускага рэлігійнага тэксту.

А. Золтан (Будапешт) у сваім дакладзе прааналізаваў паходжанне слоў «ораш» і «орашец» (велікан), выкарыстаных у старабеларускай «Аповесці пра Трышчана». Н. Паляшчук ахарактарызавала стылістычныя асаблівасці юрыдычных помнікаў, Э. Ярмоленка прысвяціла сваё выступленне ўжыванню лічэбнікаў у «Хроніцы» М. Стрыйкоўскага. В. Емельяновіч (Брэст) разважала пра асаблівасці ўтварэння і ўжывання ўстойлівых моўных адзінак у «Статуце Вялікага княства Літоўскага 1588 г.». І. Сацута (Брэст) прааналізаваў формы пасіўных дзеепрыметнікаў мінулага часу ў помніках старабеларускай пісьменнасці. Вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства НАН Украіны, прафесар В. Франчук спыніла сваю ўвагу на старажытнарускай спадчыне ў афармленні дакументаў Вялікага княства Літоўскага. Лакалізацыя «Хронікі Быхаўца» стала прадметам даклада Л. Цітко (Беласток, Польшча).

Да гісторыі мовазнаўства належала выступленне Г. Кулеш. Яна прадставіла даклад аб тым, як у 20-я гады мінулага стагоддзя ў працах беларускіх лінгвістаў асэнсоўваліся праблемы старабеларускай літаратурнай мовы. Аўтар гэтых радкоў падаў інфармацыю пра тое, наколькі неаднназначным было стаўленне да беларускай мовы харвацкага дзеяча XVII стагоддзя Юрыя Крыжаніча.

Праблематыка запазычанняў асэнсоўвалася ў цэлым шэрагу дакладаў: «Венгерскія лексічныя элементы ў карпатаўкраінскай мове» Е. Барань-Комары (Венгрыя–Украіна), «Семантычная адаптацыя запазычанняў у беларускай мове пачатку XX стагоддзя» І. Гапоненкі (Мінск) і інш. Пытанні анамастыкі асвятляліся ў дакладах Л. Грумадэне (Вільнюс) «Антрапанімія як сведчанне наяўнасці шматмоўя ў Літве XVI стагоддзя», Л. Дацэвіч (Беласток, Польшча) «Прозвішчы татараў і славянская іменаслоўная культура ў паўночнай частцы Вялікага княства Літоўскага» і інш.

Сацыялінгвістычныя тэмы былі прадстаўлены дакладамі Н. Туомене (Вільнюс) «Моўная сітуацыя ў раёне літоўска-славянскага памежжа», А. Бобрыка (Седльцэ, Польшча) «Грамадскія наступствы змены афіцыйнай мовы ў Літоўскай Рэспубліцы», Ф. Клімчука (Мінск) «Эпоха Вялікага княства Літоўскага і сучаснасць: моўная сітуацыя». Брэсцкая дыялекталагічна-этналінгвістычная школа на канферэнцыі была прадстаўлена дакладамі М. Аляхновіча, Л. Леванцэвіч, У. Барысюка, Я. Самуйліка, В. Касцючык, Л. Станкевіч.

У гэтай нататцы згаданы далёка не ўсе даклады, што прагучалі на канферэнцыі (усяго іх было прачытана больш за 80). Асаблівасцю навуковай часткі брэсцкай канферэнцыі была яе выключная «хуткаплыннасць»: секцыйныя пасяджэнні адбываліся ўсяго толькі 19 мая ў першай палове дня, а на пленарныя пасяджэнні не было вынесена ніводнага даклада. Тым больш вялікае значэнне будзе мець публікацыя зборніка матэрыялаў форуму, над якім цяпер працуюць брэсцкія калегі.

Напярэдадні канферэнцыі, да 10-годдзя з часу заснавання кафедры гісторыі беларускай мовы і дыялекталогіі Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта, быў надрукаваны біябібліяграфічны даведнік «З клопатам пра слова», які з'яўляецца каштоўнай крыніцай інфармацыі пра публікацыі супрацоўнікаў кафедры і дае магчымасць ацаніць патэнцыял берасцейскай беларусістычнай лінгвістыкі ўвогуле.

Удзельнікі канферэнцыі знаходзіліся на экскурсіі ў Іванаўскім раёне, дзе ім была прапанавана багатая культурная праграма. Навукоўцы наведалі музей народнай медыцыны ў в. Стрэльна і школу народнага бондарства ў Іванаве, паслухалі вакальна-музычныя творы ў гасцёўні Іванаўскага Палаца культуры. Перад удзельнікамі канферэнцыі выступіў заслужаны фальклорны калектыў Рэспублікі Беларусь «Палешукі». Беларусісты з Беларусі, Польшчы, Літвы, Венгрыі, Украіны з зачараваннем слухалі непаўторныя аповеды пра жыхароў Іванаўшчыны дырэктара Мотальскага краязнаўчага музея В. Мацукевіч, мелі магчымасць атрымаць асалоду ад выступленняў фальклорна-этнаграфічных гуртоў, усклалі кветкі да помніка Напалеону Орду.

Правядзенне чарговай канферэнцыі «Мовы ў Вялікім княстве Літоўскім...» запланавана на 2006 год.

***Сяргей ЗАПРУДСКІ,***
***кандыдат філалагічных навук***

*Фэст*

# Два дні сярэднявечнай сталіцы

У старажытным Навагрудку ў жніўні адбыўся трэці фэст сярэднявечнай культуры «Навагрудскі замак». Як адзначыў намеснік старшыні аргкамітэта свята, кіраўнік Міжнароднай Сярэднявечнай Лігі Ігар Міхно, у трэцім фэсце прынялі ўдзел больш за 50 ваенна-гістарычных і рыцарскіх клубаў і аб'яднанняў з усіх куткоў Беларусі, а таксама – Польшчы і Расіі. А асобныя, як кажуць, усплылі падчас падрыхтоўкі да свята.

– Трэці фэст у Навагрудку – гэта працяг добрай традыцыі, – адзначае старшыня Навагрудскага райвыканкама (ён жа і старшыня аргкамітэта). – Такія фэсты мяркуецца ладзіць раз на два гады, – падкрэсліў Анатолій Васільевіч Ліс.

На гэты раз падвяло надвор'е. У першы дзень з самай раніцы ўліў моцны дождж, парывісты вецер, здавалася, што будуць перакрэслены ўсе намаганні. Нават на нейкі час і самі ўдзельнікі пакарысталіся парасонамі ды плашч-накідкамі.

У другой палове неба пасвятлела, з-за хмараў паказалася сонейка. Песні, танцы, музыка, выступленні вядомых калектываў з Беларусі, гасцей з-за мяжы. Вакол цэнтральнай плошчы, на пляцоўках сквера Адама Міцкевіча і Малога Замка – выставы рамеснікаў. Кожны ахвочы нават меў магчымасць сфатаграфавацца з рыцарамі ў даспехах і персанажамі інсцэніровак-выступленняў.

Што да развіцця турызму поруч з правядзеннем падобных святаў, то, па словах А. Ліса, Навагрудак будзе ўключаны ў свабодную эканамічную зону Нясвіж–Мір. Паступіла прапанова ад англічан аб будаўніцтве гатэля. Інвестарам пакуль што прапанавана падрыхтаваць бізнес-план.

На цэнтральнай канцэртнай пляцоўцы адбылося выступленне гуртоў «Будрон» (Украіна), «Drolls» (Расія), «Яваравы людзі» і дуэта «Аляксандра і Канстанцін» (Беларусь). Увечары пасля ўрачыстага адкрыцця і прадстаўлення клубаў-удзельнікаў адбыўся начны бугурт. А ўдзень пад замкавай гарой прайшоў II турнір караля Міндоўга, а таксама рыцарскі турнір (баявое спаборніцтва сярод ваяроў XIV–XV стст., ваярская забава «Вікінгскі бег»).

На малым замку дэманстравалася сярэднявечная кухня і гудзеў кірмаш, гучала народная музыка ў выкананні Алеся Лася. На другі дзень на канцэртнай пляцоўцы ў перапынках між канцэртамі прайшла прэзентацыя старажытных музычных інструментаў і новых кампакт-дыскаў.

Галоўнай падзеяй на гэтым фэсце заўсёды становіцца інсцэніроўка штурму крыжакамі Навагрудскага замка ў 1394 годзе. Па гістарычных звестках крыжакамі быў спалены старажытны Навагрудак. Толькі замкам ворагі не здолелі авалодаць: мужныя абаронцы адбілі ўсе напорыстыя атакі крыжакоў...

Гэтае мнагалюднае свята, што стала традыцыйным, надоўга застанецца ў памяці прысутных, якія павезлі з сабой шмат памятных фатаграфій, сувеніраў, адрасы новых сяброў.

***Яўген ЛАПЦЕЎ,***
***г. Навагрудак***





*Пажаданні і прапановы*

*Паважаная рэдакцыя «Краязнаўчай газеты»!*

*У 28 (43) нумары закончана публікацыя «Малой краязнаўчай энцыклапедыі» на літару «А» і змешчаны матэрыял пра Ашмяны. Рэдакцыя звярнулася да чытачоў з просьбай выказаць свае заўвагі, што мы і вырашылі зрабіць. Гаворка пойдзе менавіта пра матэрыял аб нашым горадзе.*

*Каму як каму, а «Краязнаўчай газеце» варта было б ведаць і напісаць у артыкуле, што сапраўдная назва горада – Ашмяна, прычым гэта назва была яшчэ з часоў Вялікага княства Літоўскага. Назву ў множным ліку – Ашмяны – далі гораду расейцы.*

*Не знайшлося месца ў артыкуле для многіх значных падзей і знакамітых людзей, звязаных з нашым горадам. Прыйдзецца нам узяцца за пяро і падрыхтаваць больш грунтоўны матэрыял.*

*Адзначым яшчэ, што, на жаль, у вашым арыткуле не ўдалося пазбегнуць памылак.*

*Напісана, што з 1944 года горад з'яўляўся цэнтрам раёна Гродзенскай вобласці. На самой справе, з 1944 г. па 1960 г. наш горад і раён былі ў складзе Маладзечанскай вобласці і толькі пасля яе скасавання, г. зн. з 1960 г. – у складзе Гродзенскай.*

*На пачатку артыкула напісана, што ад Ашмян да Гродна 22 км, хоць на самой справе 220 км. Зразумела, што гэта тэхнічная памылка, але ўсё ж памылка.*

***Група жыхароў Ашмяншчыны***

**Ад рэдакцыі.** Змяшчаем ваш, «група жыхароў Ашмяншчыны», ліст так, як вы яго напісалі.

Думаеце, мы пакрыўдзіліся? Зусім не! Мы вельмі радыя, што ён, гэты ліст, ёсць: значыць вам, ашмянцам, неабыякава, што і як пішуць пра ваш край.

Як і самі вы падкрэсліваеце, заканчваючы публікацыю матэрыялаў «Малой краязнаўчай энцыклапедыі» на літару «А» («Ашмяны»), мы агаворваліся, што нам, маленькаму калектыву, не па сіле адлюстраваць усё сучаснае, што ёсць у нашых сённяшніх раёнах, таму мы прасілі і просім нашых чытачоў дапамагчы нам сваімі звесткамі пра тое сваё, што вы добра ведаеце. Не трэба шмат тлумачыць, гэта будзе ўсім нам на агульную карысць краязнаўчай справы. Калі вы згодныя (нават і ад добрай злосці) «узяцца за пяро і падрыхтаваць больш грунтоўны матэрыял», то – калі ласка, пішыце, дасылайце, і той, хто будзе рабіць гэтую патрэбную рэч, няхай нічога не асцерагаецца, падпісвае матэрыял сваім іменем.

А што датычыць памылак у нашай газеце, няхай сабе і зусім «тэхнічных», то нам няёмка за гэта. Выбачайце. Але зноў жа, добра, што вы падказваеце іх нам. І падказвайце – не толькі нам, але і ўсюды і ўсім – смела.

## Кінастужка пра святую Ефрасінню Полацкую

Па блаславенні Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта рэжысёрам Вольгай Маркавай на студыі «Беларусьфільм» быў зняты фільм «Ефрасіння Полацкая».

Стужка расказвае пра жыццё і дзейнасць дачкі нашай роднай зямлі. Ефрасіння можа лічыцца асветніцай нашага краю. Ужо ў XII стагоддзі святая будавала цэрквы, заснавала школы, майстэрні, дзе перапісваліся кнігі, вучыліся дзеці і моладзь. Полацкая ігумення збірала вакол сябе таленты і давала ім шлях у жыццё. Пра гэта і гісторыю нашага краю апавядае новы фільм, над якім працавалі не толькі кінематаграфісты, але і вучоныя: краязнаўцы, археолагі, гісторыкі.

Відэакопія стужкі ўжо з'явілася ў продажы.

*Юлія МАРОЗАВА*

## Сустрэчы ў Лювенскім універсітэце



Алесь Карповіч і Мікола Равенскі занялі значнае месца ў музычным жыцці беларускай дыяспары. Прыгадаем некаторыя факты з іх прызабытых біяграфій.

А. Карповіч захапляўся беларускай народнай песняй з дзяцінства, якое правёў у дзеда ў вёсцы Азёркі на Гродзеншчыне. Потым ва Уладзікаўказе, дзе служыў бацька, захапіўся каўказскім музычным фальклорам. Закончыўшы Маскоўскую кансерваторыю, прыехаў працаваць у Мінск. У апошнюю вайну трапіў у Заходнюю Германію, затым у Бельгію, дзе зноў сустрэўся з Равенскім, які кіраваў беларускім студэнцкім хорам. Пісаў для гэтага хору песні. Апрацоўваў рускія народныя песні для нямецкіх выданняў.

Больш вядомая спадчына М. Равенскага, ураджэнца Ігуменшчыны (Чэрвеньшчыны), аўтара гістарычнай оперы «Браніслава» на словы Уладзіміра Дубоўкі (захавалася ў фрагментах), духоўнай музыкі, сярод якой песня «Магутны Божа».

А па вечарах калегі па Мінскай кансерваторыі сустракаліся, музіцыравалі, дыскутавалі.

***На здымку:***
*з архіва Зоі Смаршчок (Бельгія) – М. Равенскі і А. Карповіч, 1950 г.*

# Мова – душа, Пісьменнасць – абліча народа
## (не толькі з асабістых пошукаў)

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

Мне вельмі пашанцавала, што ў складзе дэлегацыі сярод іншых пашанотных людзей быў і незабыўны Мікола Ермаловіч. Ад яго я ў Мінску і ў час паездак праслухаў літаральна курс лекцый па нашай даўняй гісторыі – у працяг ягонай «Старажытнай Беларусі», якую мы пачалі друкаваць у «Маладосці» з ліпеня 1988 года. Адно з нашых сумесных з ім выступленняў у Навагрудку запомніцца мне на ўсё жыццё. Прымалі нас вельмі цёпла; пасля Ермаловіч падгаварыў пад'ехаць у вёску Лаўрышава Шчорсаўскага сельсавета. Райвыканкам ласкава выдзеліў легкавік. У Лаўрышаве вясковец перавёз нас на лодцы праз Нёман. Прайшлі крыху лугам, увайшлі ў лясок.

– Вось старыя сляды падмуроўкі, – усхвалявана загаварыў Мікола Іванавіч. – І не простыя. Тут Міндоўгаў сын, Войшалк, напрыканцы 1240-х ці на пачатку 1250-х задумаў, а пасля «и учени собе манастырь», каб пачаць ахрышчваць Літву. А дзе была тая, летапісная, Літва? Як запісана ў Галіцка-Валынскім летапісе, пачыналася яна тут, «на реце на Немне, межи Литвою и Новымгородком». Многія і царскія, і савецкія гісторыкі падкрэслівалі гэтыя радкі з таго летапісу, але не дагаворвалі, зусім не тлумачылі, што тая Літва – менавіта тут, сённяшнія беларускія землі прыкладна паміж Навагрудкам, Мінскам, Маладзечна і Слонімам. Сённяшняя Літва – былыя Аўкштайція і Жмудзь (Жамойць). Сённяшнюю назву за імі замацоўвалі і царскія гісторыкі, каб свядома, шавіністычна пазбегнуць падкрэслівання былых войн Маскоўскай дзяржавы з беларускімі землямі і каб іх аб'явіць «истинно своими, по наследству Киевской Руси», хоць тая ж Полацкая зямля заўсёды змагалася, каб не падпарадкавацца кіеўскім князям. «Литва – мол, это совсем другое». Вось вам і летапіс! І яго можна тлумачыць па-рознаму, на патрэбу сваёй карысці...

Карацей, Ермаловіч пачаў падбіваць, каб я напісаў раман пра пачатак утварэння Вялікага княства Літоўскага з цэнтрам у сённяшнім Навагрудку, пра справы тагачасных навагародскіх баяр і Міндоўга ды Войшалка, іхнія супраціўленне і дыпламатыю з Данілам Галіцкім, яго братам і сынамі, якія Навагародскую зямлю бачылі сваёй вотчынай і фарпостам супраць суседніх Літвы, Аўкштайціі, Жамойці, а то і Яцвягіі, ды польскіх зямель, крыжакоў.

«Задзяўбуць мяне гісторыкі, Іванавіч.» – «А мяне, дружа, не дзяўбуць, не падаюць не за роўню ім, а толькі за аматара? Паверце, вы маеце перавагу, можаце націснуць на апісанне прыроды, кахання, даць волю фантазіі, смела вылучыць сваю, празаічную, версію наконт тых палітычных і ваенных стасункаў і варункаў. Што ж, могуць сказаць: не зусім гістарычна. Так некалі высакачынныя ўдзельнікі вайны з Напалеонам казалі і Льву Талстому пра яго «Вайну і мір». Але мы з вамі чытаем пра тую эпоху якраз па гэтым творы і па ім і разумеем яе».

Мяне зусім не спакушалі пэўныя лаўры, і я працяглы час не браўся за «ермаловічаў» раман. Але калі аднойчы прысніўся той лаўрышскі манах-князь у адной асобе, то штосьці зрушылася ў свядомасці і душы, і я асмеліўся ўзяцца за «Кліч роднага звона». Ермаловіч натхнёна складаў для мяне спіс крыніц, маляваў розныя генеалагічныя дрэвы тагачасных уладароў і спалучанымі ў адзін ланцуг фактамі давёў, што Міндоўг у Навагародку па запрашэнні тутэйшых баяр пачаў княжыць (хутчэй за ўсё пасля смерці навагародскага князя Ізяслава і адсутнасці альбо пагібелі ягоных нашчадкаў) недзе ў 1246-м (аніяк не пазней 1248-га) – значыць, вось прыкладны, найхутчэй у канцы 1246-га, зародак дзяржавы мірных, саюзніцкіх суседзяў, якія ў спрыяльны час (ацалеласці ад мангола-татараскага нашэсця) ўтварылі Навагародска-Літоўскае гаспадарства на чале з вялікім князем, які ў 1253-м каранаваўся на караля і справу якога крыху пазней прадоўжыць (і значна хітрэй, удалей) ягоны першы сын, Войшалк, – бясспрэчна, выхаванец і любімец Навагародка.

Як кажуць, добра. Ёсць нямала матэрыялаў, ёсць факты і фантазія, ідэя і канцэпцыя, але... мова! Мова ж для пісьменніка– асноўная, самая магутная яго зброя: яна ўвасабляе ў сабе бадай увесь чалавеча-пісьменніцкі дар. Ды якая была тады, у сярэдзіне XIII ст., мова? Князя, баяр, вояў, рамеснікаў, смердаў (сялян)? Навагародскага летапісу няма на руках; асноўныя звесткі (часта варожыя) пра перыпетыі ўтварэння, умацавання ВКЛ – у Галіцка-Валынскім летапісе. Але ён складаўся па-за межамі Навагародка; не шмат у гэтым сэнсе возьмеш і з «Аповесці мінулых гадоў» (падзеі да 1117 года), Кіеўскага летапісу (падзеі 1118–1192); былі пошукі мовы з Лаўрэнцеўскага летапісу (паданне пра Рагнеду), па летапісе вялікіх князёў літоўскіх (пачаў складвацца каля 1430 года), па хроніцы Быхаўца, па Баркулабаўскім летапісе (дарэчы, там ужыта слова «спадарынька» і інш.). А таксама пошукі працягваліся па этымалагічным і гістарычным слоўніках беларускай мовы, па розных мастацкіх творах рускай, украінскай, польскай літаратуры. Найперш па перыядзе, асобах галіцка-валынскага ўладара Данілы, які быў амаль аднагодак Міндоўга, а таксама на дзесяткі два гадоў маладзейшага за ноўгарадскага і ўладзімірскага князя Аляксандра Неўскага – трох тагачасных волатаў сённяшніх украінскіх, беларускіх і рускіх зямель. Каб напісаць некалькі старонак пра адзенне, узбраенне мангола-татар, грознага Батыевага военначальніка, аднаго з самых страшных апусташальнікаў, скарыцеляў Залесся, (Суздальска-Уладзімірскай Русі) пад канец 1230-х гадоў Бурундая, які ўпершыню ўварваліся (зусім на кароткі час, не ўстанавіўшы ніякага свайго іга, толькі з помстай Міндоўгу за яго паход на васальскія мангола-татарскія землі) на сённяшнія беларускія землі, Міндоўгаву Літву, – прыйшлося праштудзіраваць некалькі раманаў В. Яна, які, у сваю чаргу, штудзіраваў многія персідскія і кітайскія летапісы, каб напісаць нашэсце Чынгісхана і Батыя.

Як вядома, у ВКЛ дамінавала культура сённяшніх беларускіх зямель. Напрыклад, засведчана, што Ягайла і на троне польскага караля гаварыў па-беларуску і пабудаваў для сябе храм, дзе прапаведалася на блізкай яму мове (адпаведна, ёй карысталіся і ягоныя прадзеды); дзяржаўнай мовай была тагачасная беларуская.

Пачынальнікам беларускай літаратурнай мовы для нас стаў Францыск Скарына. Канечне, у перакладах кананічных рэлігійных тэкстаў ён не мог вельмі беларусіць (за гэта цярпеў за многае: яго мову і цяпер многія не прызнаюць блізкай народу і непрымальнай для царквы, а таксама папікаюць за чэхізмы і паланізмы), але ў сваіх прадмовах і пасляслоўях ён – першы беларускі мовазнаўца і пісьменнік, друкар, вялікі філосаф і асветнік, правазнаўца, глыбока дасведчаны ў іншых галінах ведаў, сапраўдны патрыёт Бацькаўшчыны (да 50 разоў ушаноўваў свой слаўны Полацк – адпаведна яго гісторыю і культуру). Вось з яго слоўнікавага запасу словы – **або, абы, альбо, але, бабіць, барва, братанец, брыдкасць, былы, вага, важыць, гаспадар, грошы, дбаць, зброя, звычай, згода, клопат, крыўда, кут, лагодны, лепшы, ліст, лічба, мінулы, млын, натхненне, навіна, пільнасць, павольны, падлога, патрэба, прыклад, прамень, пуга, сенажаць, смутак, сталы, час** і г.д., і г.д. (наконт гэтага ёсць цудоўны двухтомны «Слоўнік мовы Скарыны» мовазнаўцы У. Анічэнкі).

Названыя і іншыя словы, што і сёння ў залатым нашым лексічным запасе, Скарына не прыдумаў на хаду, яны былі задоўга да яго, складваліся, усталёўваліся стагоддзямі. Яны не маглі быць і ў Навагародку 1240–1250-х? Больш, як зазначаюць вучоныя, у тым ліку і вышэйназваны У. Анічэнка, Скарына ўлічыў, што яшчэ да яго, у 1489 годзе, менавіта з Навагародка (!) перапісчык рэлігійных тэкстаў паповіч Бярозка «прыклаў усе намаганні», каб наблізіць іхнюю царкоўна-славянскую мову да тутэйшай беларускай. Скарына мог ведаць і іншыя, можа, яшчэ і ранейшыя прыклады на гэты конт, невядомыя нам сёння.

Зрэшты, моўнае пытанне было вялікай турботай і для геніяльных – ужо ўпамінанага Льва Талстога і Генрыка Сянкевіча: першы, пішучы пра вышэйшае грамадства эпохі вайны з Напалеонам, мусіў шмат французіць, бо на французкай мове гаварыла тое вышэйшае грамадства, а для другога ў «Крыжаках» загвоздкай было пытанне лацінскай мовы, якая ў часы Грунвальдскай бітвы панавала афіцыйна ў Польшчы (Кароне). Але ж гэтыя вялікія творы не маглі быць напісаныя па-французску і па-лацінску. Зрэшты, моўнае пытанне– вялікая турбота для ўсіх, хто піша на гістарычную тэму. Любоў да роднай гісторыі, мовы патрабуе дакладнасці ў пранікненне эпохі, якая даследуецца. Ва ўсіх яе атрыбутах. У тым ліку і ў духу народным – лексіцы, ходзе, складзе думак, размоў герояў, назваў тагачасных прадметаў, зброі, адзення, з'яў, падзей, каб чытач таксама быў далучны да таго, існага. Значыць, пісьменніку, аматару ў гісторыі, трэба быць у нечым вышэй за гісторыка-прафесіянала. Гісторыку, каб аднавіць былую гістарычную карціну, хопіць глыбокіх ведаў і добрай сучаснай літаратурнай мовы. Літаратару мала быць дасведчаным і пісьменным, каб аднавіць каларыт эпохі, ад якой цяпер не ўсё засталося. Дык што – пісаць на мове таго ж XIII стагоддзя? Але тая летапісная мова, якая яна часамі ні сакавітая ў асобных выпадках, сёння не зусім зразумелая нават некаторым філолагам. Скажам, красамоўная лексіка ў «Слове пра паход Ігаравы», але, прызнаемся, ці ўсе з нас чыталі яго па старажытным тэксце? Хіба не чыталі іменна ў перакладзе на рускую альбо беларускую мовы? Як і старажытныя ўласна беларускія летапісы і хронікі?

Дзе ж выйсце і для тых, хто паспрабаваў пісаць гістарычныя творы і хто за іх яшчэ возьмецца і апынецца перад цяжкім выбарам? Будзьма рэалістамі, адказу на гэта не далі і Леў Талстой ды Генрык Сянкевіч. Яны далі толькі свой варыянт (Леў Талстой скарачаў і скарачаў французскі тэкст). Таму кожны пісьменнік павінен сам рабіць свой выбар, сам шукаць сваю мову. І, як падкрэсліваюць разумныя крытыкі, эталону тут можа і не быць: эталоны ёсць эталоны, да іх трэба прыглядацца, шанаваць, але не заўсёды іх трэба пераймаць. Тым больш цалкам. Каб не быць пераймальнікам, другарадным ў аснове. Адпаведна неабходна ўцэліць: і былы змест, і дух перадаць, і быць цікавым сённяшняму чытачу, які не заўсёды глыбокі мовазнаўца, знаўца старажытнай гісторыі. Асабіста я пры дапамозе выкладчыка стараславянскай мовы першыя 15 старонак «Кліча роднага звона» напісаў на мове, набліжанай да тагачасна летапіснай, але затым адмовіўся ад гэтай плыні: і сучасную беларускую мову не ўсе добра ведаюць з-за таго, што лічаць не зусім патрэбным яе ведаць і карыстацца ёю. Таму намагаўся спалучыць лексіку летапісаў і прадмоў-пасляслоўяў Скарыны, свае веды сённяшніх народнай гаворкі і літаратурнай мовы, на маю думку, у патрэбным месцы дадаючы каларыту.

***...У свой час Мікола Ермаловіч уручыў мне экземпляр сваёй «Старажытнай Беларусі» з надпісам, што дае мне сваю кнігу першаму. Мабыць, за гарачую падтрымку яго твора. Калі я атрымаў сігнальны экземпляр «Кліча роднага звона» з прысвячэннем яму, настаўніку і дарадцу, то хацеў першаму ўручыць адзін з самых дарагіх для мяне (у многім сэнсе «ермаловічавага») твораў у яго працавітыя і добрыя рукі. Не паспеў на суткі...***

***Горасна ад заўчаснай страты яго, але радасна, што Ён быў, працаваў, што амаль фізічна сляпы (мінус 28 зроку) стаў пранікнёна відушчы ў нашай мове, культуры, гісторыі, нястомна дбаў пра душу і абліча, дзяржаўнасць нашага народа.***

*Генрых ДАЛІДОВІЧ*





# Жанчыны ў жыцці Касцюшкі

***Кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 года ў Польшчы, нацыянальны герой ЗША і ганаровы грамадзянін Францыі, Анджэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка правёў большую частку свайго жыцця не толькі без сям'і, але і без колькі-небудзь уладкаваных любоўных адносін. Тым не менш, у жыцці гэтага выдатнага палкаводца, грамадскага і палітычнага дзеяча былі тры жанчыны, якія кахалі яго ў розныя перыяды ягонай плённай дзейнасці. Адну з іх ён, магчыма, кахаў да скону – яна, відаць, і была суджанай яму Богам жонкай і магла б нарадзіць яму дзяцей. Гэтага не адбылося, мары Касцюшкі займець уласную сям'ю так ніколі і не спраўдзіліся. Усе сілы, усе свае здольнасці і талент Тадэвуш Касцюшка аддаў свайму народу. Хто ведае – мабыць, калі б у яго была сям'я, ён ніколі і не зрабіўся б тым, кім стаў, – вядомым чалавекам, героем, сапраўдным патрыётам сваёй Айчыны?.. Сям'ёй для Касцюшкі была яго Радзіма, а сяброў і аднадумцаў ён знаходзіў усюды, куды б ні трапляў: у Амерыцы і ў Францыі, у Польшчы, Беларусі і Літве. Варта нагадаць, што нарадзіўся Касцюшка якраз-такі ў Беларусі, на Брэстчыне. Таму гэта і наш славуты зямляк, якім мы можам па праве ганарыцца.***

Першым каханнем Касцюшкі была дачка літоўскага польнага пісара Людвіка Сасноўская – прыгожая і абаяльная паненка з багатага магнацкага роду. Тадэвуш не мог нават марыць пра тое, каб ажаніцца з ёю. Хто ён тады быў – маламаёмасны шляхціц, які б ніколі не забяспечыў будучыню сваіх дзяцей і жонкі... Касцюшку, маладога афіцэра-капітана, выклікаў да сябе польскі кароль і вялікі князь Літоўскі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі і загадаў яму ехаць у Парыж, вучыцца там майстэрству жывапісца, каб потым быць пры каралеўскім двары мастаком, маляваць партрэты ці краявіды. Касцюшка і сапраўды меў талент жывапісца. Ён пагадзіўся паехаць вучыцца ў Францыю. Спадзяваўся, што каханая яго не пакіне, будзе пісаць яму туды любоўныя лісты.

Але ўсё адбылося іначай. У Парыжы Касцюшка зразумеў, што ніколі не зробіцца добрым жывапісцам. Ён прыняў рашэнне – кінуць Акадэмію мастацтваў і пачаць рыхтаваць сябе да службы ў войску ў якасці ваеннага інжынера. Там, у Францыі, канчаткова сфарміраваўся характар Тадэвуша як мэтанакіраванага, моцнага духам, маральна загартаванага чалавека. Каханая не пісала яму некалькі гадоў. Ён знайшоў сабе іншае каханне. Простая француженка, якой ён дапамог вылечыцца ад цяжкай хваробы, адагрэў цеплынёй свайго сэрца, на нейкі час сталася для яго ўсім, увасобіла яго надзею на сямейнае шчасце. Але яны вымушаны былі растацца – француженка па-ранейшаму кахала свайго мужа...

Вярнуўшыся на радзіму, Касцюшка быў уражаны дзікасцю і адсталасцю свайго роднага краю. Цяпер ён быў ужо зусім інакшым і па-новаму ўспрымаў усё, што адбывалася на Бацькаўшчыне. Сустрэўшыся з Людвікай, ён зразумеў: гэта тая, з кім ён хацеў бы назаўсёды звязаць сваё жыццё. Аднак паміж імі паўстала сцяна з прымхаў, забабонаў, маёмасных непаразуменняў. Іх сем'і ніколі не маглі парадніцца. Неўзабаве Людвіка выйшла замуж за князя Любамірскага, а потым напісала свайму былому каханаму: «Целам я належу яму, а сэрцам – табе»...

Не толькі дзеля таго, каб загаіць сардэчныя раны, Касцюшка паехаў у Злучаныя Штаты Амерыкі. Там ён мужна ваяваў за незалежнасць Паўночнай Амерыкі, паступова прывыкаючы да сваёй адзінокай долі. У Амерыцы ён здабыў сабе званне генерала, славу, адносную заможнасць. Але не ішла ў яго з галавы Людвіка – адзіная каханая, адзіная надзея ў ягоным нялёгкім жыцці.

Касцюшка быў валявым чалавекам: ён змог пераадолець свае пачуцці да Людвікі, знайсці месца ў жыцці, нягледзячы на жорсткія абставіны, а то і насуперак ім. Вярнуўся ён на радзіму з Амерыкі ўжо сапраўдным героем. Паступіў на службу ў польскае войска. У яго закахалася маладзенькая дзяўчына Тэкля. Яна пагадзілася выйсці за яго замуж. Яшчэ б – гэта быў бы для яе такі гонар!.. Але яе бацька адмовіўся даць згоду на шлюб. І тады дзяўчына, праляжаўшы тры месяцы ў гарачцы, пайшла за ад'ютанта Касцюшкі Княжэвіча, які прыносіў ёй ад Тадэвуша любоўныя запіскі. А Касцюшка назаўсёды развітаўся са спадзяваннем на асабістае шчасце.

Потым былі паўстанне, змагарныя подзвігі, радасць першых перамог, надзея на вызваленне роднай краіны... Разгром паўстання, турма, эміграцыя... І ўсюды Касцюшка сустракаў павагу і прызнанне, усюды яго любілі людзі, якім ён зычыў толькі дабра і шчасця. Дні свае Касцюшка завяршыў на чужыне, у чужой сям'і, якая гасцінна прывеціла яго і дала яму прытулак напрыканцы ягонага жыцця. Ён дасягнуў у жыцці ўсяго, чаго хацеў, аднак мець сям'ю, дзяцей – гэтага шчасця Бог яму так і не даў.

Што ж рабіў Касцюшка для таго, каб годна перажыць асабістае няшчасце? Ён загартоўваў сваю волю, шмат працаваў, імкнуўся быць патрэбным людзям, свайму народу. Яго любілі, паважалі, цанілі. Так што яго нельга было назваць няшчасным чалавекам. Наадварот, ён быў вельмі шчаслівы. Бо збыліся яго мары і спадзяванні. У тым ліку на абуджэнне роднага народа, які паўстаў вайною на сваіх прыгняталнікаў – чужаземных захопнікаў.

Касцюшка пакінуў яркі след у гісторыі. Яму пастаўлены помнікі на Радзіме і за мяжою. Яго імя стала сімвалам барацьбы за свабоду, за лепшую долю. І адначасова гэта імя належала чалавеку, які так і не здолеў стварыць сваёй сям'і. Затое ягонай сям'ёй быў увесь свет...

***Святлана ЯВАР***




**19 ліпеня (1 жніўня) 1914**

# Пачатак Першай сусветнай вайны

***Гэта была вайна за перадзел ужо падзеленага свету паміж нямецка-аўстрыйскім блокам дзяржаў і Антантай (Англіяй, Францыяй і Расіяй). Зачэпкаю для яе пачатку стала забойства сербскімі тэрарыстамі спадкаемца аўстра-венгерскага трону эрц-герцага Франца Фердынанда. 19 ліпеня (1 жніўня) вайну Расійскай імперыі абвясціла Нямеччына, а праз пяць дзён – Аўстра-Венгрыя.***

Ось 24 і 25 чэрвіня (Іюня)

У кампанію 1915 года галоўны ўдар сваіх армій Нямеччына скіравала супраць Расіі. У сувязі з гэтым у жніўні быў створаны Заходні фронт са штабам у Мінску. Беларусь зрабілася прыфрантавой паласой. Тут скарачалася прамысловая вытворчасць, пасяўныя плошчы і пагалоўе жывёлы. Блізу паловы мужчын былі мабілізаваныя. Сотні тысяч жыхароў, часцей за ўсё пад прымусам, сталі ўцекачамі.

У выніку летняга нямецкага наступу расійскія войскі пакінулі Варшаву, а потым Коўна, Берасце і Горадню. У верасні нямецкае кавалерыйскае злучэнне ў складзе шасці дывізій прарвала фронт на ўчастку Свянцяны–Барысаў, захапіла Вілейку і наблізілася да Маладзечна. Асобныя часці дайшлі да Барысава і Смалявічаў. Была пакінутая Вільня. Аднак 2-я расійская армія здолела пасля жорсткіх дзесяцідзённых баёў у ваколіцах Маладзечна, Вілейкі і Смаргоні разбіць праціўніка. Немцы адступілі да азёраў Нарач і Свір, пасля чаго бакі перайшлі да пазіцыйнае вайны, і фронт на доўгі час усталяваўся на лініі Дзвінск (Даўгаўпілс) – возера Нарач – Баранавічы – Пінск.

Паводле дамовы з альянтамі расійскае камандаванне меркавала правесці ўлетку 1916 года шырокі наступ, але, каб дапамагчы французскай арміі, якая трапіла ў цяжкое становішча пад Вердэнам, аперацыя пачалася раней, у сакавіку, на вузкім участку фронту каля возера Нарач. Наступ разгарнуўся пры слабой падтрымцы артылерыі і ў складаных метэаралагічных умовах. Нарачанская аперацыя была непадрыхтаваная і, нягледзячы на гераізм расійскіх салдатаў, дала толькі нязначныя тактычныя поспехі. Страты Расіі забітымі, параненымі і палоннымі склалі блізу 100 тысяч чалавек. Такі кошт быў заплочаны за палёгку, атрыманую французскай арміяй.

Цяжкія паразы, дрэннае забеспячэнне правіянтам і боепрыпасамі вялі ў арміях Заходняга фронту да росту незадаволенасці і салдацкіх выступленняў. Самае моцнае з іх адбылося ў кастрычніку 1916 года ў Гомелі. Штуршком да яго стаў арышт казака, якога турэмнікі жорстка збілі. У адказ на гэта паўсталі чатыры тысячы салдатаў і казакоў, якія абяззброілі вартавых, вызвалілі з гаўптвахты 800 арыштаваных і знішчылі абвінаваўчыя дакументы.


*Расійскі паветраны батальён у Нарочы*

Пасля кастрычніцкага перавароту салдаты Заходняга фронту адыгралі галоўную ролю ва ўсталяванні бальшавіцкай улады на неакупаваным немцамі абшары Беларусі.

3 сакавіка 1918 года ў Берасці была падпісаная мірная дамова паміж Савецкай Расіяй і дзяржавамі нямецкага блоку. Гэтая дамова пакідала немцам Польшчу, Летуву і частку Беларусі.

Першая сусветная вайна прынесла беларускаму народу велізарныя людскія страты. Загінулі 1 млн 200 тыс. чалавек, сотні тысяч беларусаў не змаглі вярнуцца з эвакуацыі, засталіся параскіданымі на неабсяжных абшарах Расіі.

***Уладзімір АРЛОЎ***


*У акопах Першай сусветнай. Перад газавай [illegible]*


*1957 г. Брацкая магіла палеглых у 1914–1916 гг. в Лужы Мядзельскага раёна*

***Ці маюць краязнаўчую каштоўнасць мемуары? Напэўна, так. Успамінаючы, чалавек не проста прасочвае ўласны лёс, а абавязкова выходзіць на канкрэтныя мясціны і людзей, якія тут жылі і сцежкі якіх сыходзіліся са сцежкамі мемуарыста. Мясціны нават ажываюць ва ўспамінах, набываюць своеасаблівую навізну, бо прапускаюцца праз асобу аўтара, яго маральную памяць.***

# Краязнаўца азірaецца ў пройдзенае

Апошнім часам краязнаўчая праца ў рэгіёнах пажвавела, дзякуючы новаму пакаленню энтузіястаў роднай даўніны, што прыйшлі паслугаваць ёй, а праз яе – сучаснасці. Прыйшлі ў канцы 1980-х. На Гродзеншчыне гэта Святлана Кошур (Карэлічы), Мікола Гайба (Навагрудак), Віктар Шоць (Смаргонь), Сяргей Чыгрын (Слонім), Уладзімір Руль (Воранаўскі р-н), Аляксандр Госцеў, Андрэй Майсяёнак, Вячаслаў Швед, Аляксандр Талерчык, Сяргей Данскіх (Гродна). Зрэшты, два апошнія вывучаюць не Гродна, а родныя мясціны, якім прысвяцілі грунтоўныя краязнаўчыя даследаванні: «Парэчча. Гісторыка-краязнаўчы нарыс пра вёску Парэчча Слонімскага раёна» (Гродна, 2002) А. Талерчыка і «Наш Шчучын» (Гродна, 2001) С. Данскіх. Старэйшае ж пакаленне падводзіць рахункі – піша ўспаміны. На жаль, не пакінулі сваіх пісьмовых сведчанняў аб пройдзеным і адышлі ў лепшы свет Уладзімір Урбановіч (в. Валеўка Навагрудскага р-на), Міхал Ляпеха (в. Кушляны Смаргонскага р-на), Эдуард Корзун (в. Гальшаны Ашмянскага р-на), Раман Лецка (Навагрудак).

Усё ж краязнаўцы Гродзеншчыны выпусцілі цікавыя мемуарныя кніжкі. У мінулым годзе выйшлі ўспаміны Алеся Белакоза «Каб жыла Беларусь», Васіля Супруна «Штрыхі з успамінаў», Апанаса Цыхуна «Пройдзеныя шляхі-пуцявіны». Да іх прымыкаюць мемуары Хведара Нюнькі «Мае ўспаміны» (Вільнюс, 2001). Хаця аўтар, па сутнасці, не займаўся краязнаўствам, але жыццёвыя вытокі яго, звязаныя з роднай Мастоўшчынай, Шчучыншчынай, раскрыты хораша, з вялікай увагай да лакальных мясцін і тутэйшых людзей. Трэба яшчэ згадаць выдадзеную ў Слоніме ў 2002 годзе сціплую кніжачку Пятра Марціноўскага «Наша Лорка», у якой былы настаўнік піша не пра сябе, а пра Ларысу Геніюш, з якой звязвалі яго гады сяброўства і ліставання.

Мемуары былі калісьці вельмі папулярным жанрам творчасці. Прынамсі, у XIX стагоддзі, калі шляхецкія маёнткі Беларусі сталі сапраўднымі асяродкамі культуры, гаспадары іх, людзі, як правіла высокаадукаваныя, ладзілі вечарыны (са спектаклямі, канцэртамі, танцамі, забавамі), займаліся краязнаўствам, калекцыянаваннем, збіралі бібліятэкі, шмат чыталі, вялі дзённікі і пісалі мемуары, нярэдка вялікія, шматтомныя. Вяртанне ў мінулае, адзін на адзін з сабою было спосабам асэнсавання свайго жыцця і ўласнага «я» ў кантэксце часу, сродкам ідэнтыфікацыі сябе ў краёвай, «ліцьвінскай» (беларускай) ідэалогіі, якая развівалася тады ва ўмовах супраціву вялікадзяржаўнай палітыцы царызму. Мемуары пісаліся і з думкай, часцей схаванай, нават падсвядомай, аб тым, каб даць урокі жыцця нашчадкам, умацаваць у іх душах пачуццё свайго роду, свае зямлі.

Савецкая сістэма адвучыла ад мемуараў. Яна асуджала вяртанне назад, бо трэба было глядзець толькі ўперад, у «светлую будучыню». Сёння мемуары пішуцца досыць рэдка. Калі ж бяруцца людзі за пяро, каб распавесці пра перажытае, то гэта звычайна людзі ідэі, часцей ідэі нацыянальнага адраджэння. І зведалі яны асабліва драматычны лёс, павучальны для сучаснікаў. У нашым выпадку гэта яшчэ краязнаўцы са стажам. Кожны з іх – А. Белакоз, В. Супрун, А. Цыхун – вартыя вялікай размовы.

Кніга А. Белакоза сабрана з матэрыялаў, напісаных у розныя гады. Але руху часу ў лёсе яе аўтара амаль не заўважаецца: А. Белакоз – вельмі цэласная і паслядоўная асоба. Патрыятычная самаадданасць – сэнс усяго яго жыцця. Працаваў настаўнікам. У 1959–1990 гг. – у Гудзевіцкай дзесяцігодцы (Мастоўскі р-н), дзе вёў рознабаковую нацыянальна-асветніцкую працу з вучнямі. Істотнай часткай такой працы было краязнаўства, якому аддаваў увесь свой час, энергію, уласныя сродкі. Тады ўсяляк заахвочвалася стварэнне ў школах «ленінскіх» музеяў і музеяў «баявой славы». Гудзевіцкі ж педагог збіраў з вучнямі літаратурныя, мастацкія, гістарычна-этнаграфічныя матэрыялы. Прычым у пошуках выходзілі далёка за межы свайго рэгіёну, ліставаліся з пісьменнікамі, людзьмі мастацтва, культуры Беларусі і іншых краін. Такая краязнаўчая практыка сустрэла глухі, а затым і жорсткі, адкрыты супраціў ідэалагічных службаў. Асабліва з той пары, з 1960-х гадоў, калі сталі ствараца ў школе музейныя экспазіцыі. Колькі ён перанёс праследаванняў, абвінавачанняў, пагроз.

Але выстаяў, ні ў чым не адступіў ад свае пазіцыі настаўніка і беларуса-патрыёта. І паступова стварыў музей, унікальны ў Беларусі. Ён не мае аналагаў, па-першае, паводле статусу гэта дзяржаўны літаратурна-этнаграфічны музей, які дзейнічае ў вясковай глыбінцы. Па-другое, унікальны паводле універсальнасці матэрыялаў. Тут працуюць аддзелы літаратуры, мастацтва, гісторыі, лёну, народнай медыцыны і інш.

Пра сваё жыццё, пра музей, што стаў справаю гэтага жыцця і распавядае заслужаны работнік культуры Беларусі А. Белакоз у кнізе «Каб жыла Беларусь». На яе старонках знойдзем шмат цікавых штрыхоў да характарыстыкі людзей, сцежкі якіх так ці інакш перасякаліся з Гудзевічамі, Белакозам, музеем. Гэта Л. Геніюш, В. Быкаў, У. Караткевіч, М. Прашковіч, А. Ліс, Б. Ржэўскі, З. Іваноўскі. Аўтар успамінаў умее прыкмеціць найбольш істотнае ў падзеях, людскіх паводзінах, умее даць ім маральную ацэнку – і кніга добра чытаецца. Што ж, мемуары – гэта літаратура.







Такі тэзіс тым больш стасуецца з кніжкай В. Супруна: аўтар яе – прафесійны пісьменнік. Выдаў зборнікі паэзіі «Крык» (1993), «Рэха абуджаных дзён» (1994), «Жыць для Беларусі» (1998), «Незабыўныя ксівы. Вершы з падпольнай канцлагернай перапіскі з Ларысай Геніюш» (1998). Мае салідны даробак у краязнаўстве – кніжкі «За смугою часу» (1994), «Дзеі над Шчарай. З гісторыі зямлі Слонімскай» (2000), «100 пытанняў і адказаў з гісторыі Слонімшчыны» (2002). Штрыхі з успамінаў успрымаюцца як сціслае падвядзенне вынікаў, падлік зробленаму за немалы чалавечы век. А ён быў поўны драматычных выпрабаванняў, якія і сёння нялёгка асэнсаваць. Праўда, у невялікай (130 старонак) кніжцы найбольш апісаны час гітлераўскай акупацыі і першыя паваенныя гады, па 1947 год уключна, калі В. Супрун, малады настаўнік з в. Глоўсевічы (Слонімскі р-н), быў арыштаваны і асуджаны на 25 гадоў канцлагераў за падпольныя патрыятычна-асветніцкія справы. Лёс нявольніка ў Інце і Варкуце паказаны аглядна-бегла. Жыццё з 1956 года, калі вярнуўся на радзіму, асветлена асобнымі момантамі, звязанымі з нялёгкім выданнем кніг, сустрэчамі з Л. Геніюш, вяртаннем – яшчэ раз – у 1946–1947 гады, калі стваралася падпольная група «Чайка», што аб'ядноўвала патрыятычную моладзь для супрацьдзеяння нацыянальнай палітыцы СССР. Успаміны В. Супруна прасякнуты думкай пра вялікую каштоўнасць для чалавека яго нацыянальнага «я», пра неабходнасць нацыянальнай самарэалізацыі. Таму, відаць, шмат месца ў мемуарах адведзена пачатку станаўлення асобы і яе духоўнага свету. Тыя гады, ваенныя і пасляваенныя, з іх няспыннай трывогай за заўтрашні дзень, беднасцю, нястачамі ў сям'і, увогуле ў вёсцы былі той парой, калі ў жыццё юнака ўваходзіла святло кнігі, ведаў, настаўніцкай працы, урэшце, уласнага, такога жаданага вершаванага радка, затым і свайго друкаванага паэтычнага слова. Хацелася шанаваць гэтае святло роднага, ахоўваць яго ад небяспекі знішчэння бяздушнай машынай таталітарызму. Для гэтага нараджаліся таемныя кантакты з равеснікамі. Пазней, праз гады, калі прыехаў дадому і працаваў да пенсіі будаўніком (хаця атрымаў вышэйшую гістарычнуіо адукацыю), калі выдаваліся кнігі вершаў і краязнаўчых нарысаў, жылося той жа адзінай думкай-марай пра Беларусь і яе іншую, лепшую долю. Сваёй кніжкай успамінаў аўтар давёў і сабе, і людзям, што не мяняў ідэал і заўсёды любіў толькі Бацькаўшчыну.

Апанас Цыхун – з той жа кагорты адраджэнцаў, хаця на шмат старэйшы за сваіх калег па краязнаўстве. Нарадзіўся ў 1910 годзе ў Гродзенскім раёне (в. Кунцаўшчына), дзе і працаваў у пасляваенны час настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, раённым інспектарам школ. Аб'ездзіў і абхадзіў гэты край і па доўгу службы, але найбольш – па патрэбе душы, збіраючы матэрыялы пра вядомых землякоў, пра гістарычнае мінулае рэгіёна, запісваючы народную лексіку, тапонімы, фальклор. Мясцовыя краявіды і паданні, тутэйшы люд давалі натхненне і для літаратурнай творчасці – друкаваў апавяданні, вершы. Але былі гэта не тыя лёгкія рыфмаванкі ці канструкцыйна падрыхтаваныя празаічныя эцюды, што пераважаюць на старонках правінцыйнай перыёдыкі. Лепшыя творы А. Цыхуна, асабліва з пейзажнай лірыкі, маглі б упрыгожыць адпаведныя літаратурныя анталогіі. Стварыў музей Я. Карскага на яго радзіме, які паспяхова дзейнічаў у 1964–1997 гг., пакуль не абязлюдзеў родны кут вучонага. Выдаў пра яго кніжку «Акадэмік з в. Лаша Я.Ф. Карскі» (1993). Выпусціў слоўнік народных гаворак «Скарбы народнай мовы» (1993), зборнік уласных твораў «Легенды і былі Гродзеншчыны» (1995), зборнік народнай паэзіі «Песні з народных глыбіняў» (2001), урэшце і кніжку мемуараў.

Шлях свой А. Цыхун прасочвае даволі падрабязна, паказваючы час, асяродак, асабліва побыт і людзей даваеннай заходнебеларускай вёскі. А асяродак і людзі на яго жыццёвай дарозе мяняліся. Вучыўся ў сямігодцы, затым у польскай настаўніцкай семінарыі ў Гродне. Пасля – служба ў польскім войску. Жаніцьба і праца на гаспадарцы ў вёсцы. Пераезд у Гродна. Зноў мабілізацыя ў войска напярэдадні вайны Германіі з Польшчай. Першыя баі з гітлераўцамі. Абарона Варшавы. Нямецкі палон. Вяртанне дадому, дзе стаў настаўнічаць. Савецкі прызыў на вайсковыя зборы, зноў вайна, драматычныя выпрабаванні яе першых дзён. Цяжкі шлях да роднай хаты. Туляннe ва ўмовах акупацыі. Праца ў савецкай школе. Адстойванне правоў беларускай мовы. Балючыя прыдзіркі НКУС. Радасць краязнаўчых пошукаў...

У кнізе няма калейдаскапічнай змены падзей. Аўтар не спяшаецца, хаця не ўсе палосы свайго жыцця паказвае аднолькава разгорнута. Але скрозь прыкмячае характэрныя дэталі, нярэдка прапануе эпізоды, сцэнкі, якія многа гавораць пра час і грамадска-псіхалагічныя абставіны. Увогуле ж кніга вельмі багатая фактамі і дазваляе зведаць дух звычайнага заходнебеларускага інтэлігента, які жыў паміж вёскай і горадам і на гэтым сумежжы знайшоў вельмі добры ракурс бачання рэальных даброт радзімы. Заслужаны настаўнік Беларусі, А. Цыхун і сёння творча працуе, рыхтуе новую кнігу. Жыццё навучыла яго рабіць сваю справу няспешна, але мэтанакіравана, не зважаючы на ўсякія кан'юнктурныя зігзагі ў грамадстве, рабіць дзеля мацавання «роднага карэння» (М. Гарэцкі), а значыць, і развіцця ды цвіцення самога дрэва.

***Тры постаці краязнаўцаў Гродзеншчыны, што азірнуліся ў пройдзенае. Яны вельмі блізкія сваім нястомным слугаваннем роднай зямлі, хаця і розныя біяграфіямі. Блізкія, між іншым, і тым, што мемуары іх ужо сёння немагчыма набыць. Кніжка А. Белакоза, выдадзеная ў Мінску, мае наклад 200 асобнікаў. Кніжка А. Цыхуна, якая выйшла ў Гродне, налічвае 150 асобнікаў. Выданне ж В. Супруна, што ўбачыла свет у Слоніме, абмежаванае 30 асобнікамі. І гэта надта сумна. Краязнаўства не стала ў нас справаю дзяржаўнай значнасці і трымаецца воляю энтузіястаў ды нашымі надзеямі.***

***Аляксей ПЯТКЕВІЧ***

## Дырэктар энергетычнага інстытута

Шэрагі навукоўцаў Расіі, якія нарадзіліся ў Беларусі, здаецца, бясконцыя. З тых, хто працуе ў Іркуцку, адным з расійскіх навуковых цэнтраў, з'яўляецца і Мікалай Варапай – дырэктар Інстытута сістэм энергетыкі імя П.Мяленцьева Расійскай акадэміі навук. Нарадзіўся вучоны ў Гродзенскай вобласці 1 лістапада 1943 года.

Як складваўся шлях нашага земляка ў вялікую навуку? У 1966 годзе Мікалай скончыў Ленінградскі політэхнічны інстытут. Са спецыяльнасцю інжынера-энергетыка і прыехаў у інстытут, у якім з часам стаў дырэктарам. Абараніў кандыдацкую і доктарскую дысертацыі. Надрукаваў амаль 200 навуковых прац. Сярод іх –14 манаграфій (у тым ліку – «Кіраванне магутнымі энергааб'яднаннямі», «Структурны аналіз электраэнергетычных сістэм»).

Навуковыя дасягненні Мікалая Варапая адзначаны Дзяржаўнай прэміяй СССР. За мінулыя 15 гадоў вучоным распрацаваны тэорыя і метады сінтэзу працяглых структурна-неаднародных энергааб'яднанняў. У 1996 годзе Расійскім фондам фундаментальных даследаванняў гэты накірунак прызнаны вядучай навуковай школай Расіі, за што інстытуту прысвоены спецыяльны грант падтрымкі.

*Алесь КАРЛЮКЕВІЧ*





# Палескія карані Гогаля

Даследчыкі даўно займаліся пытаннем, чаму Мікалай Гоголь цікавіўся беларускім Палессем і ці мог Андрэй Баболя, закатаваны казакамі ў Янаве Палескім (цяпер Іванава), быць прататыпам Андрэя ў аповесці «Тарас Бульба».

Баболя, кананізаваны каталікамі як святы, дачынення да «Тараса Бульбы» не меў, а Гоголь на беларускім Палессі не бываў. Але тым не менш Піншчыная цікавіўся, атрымоўваў пра яе звесткі ад фальклярыста Міхаіла Максімовіча. Болей таго, аўтар «Мёртвых душ» меў беларускія карані, пра што сведчыць яго двайное прозвішча Гоголь-Яноўскі. Яго продкам быў пінскі грэка-каталіцкі епіскап Іона Гоголь, які некаторы час быў архімандрытам у Кобрыне, прымаў удзел у абвяшчэнні Берасцейскай уніі.

Пра ўсё гэта распавёў кандыдат філалагічных навук Уладзімір Замкавец у артыкуле «Надпіс на камені, ці Яшчэ раз аб палескіх каранях Гоголя», змешчаным нядаўна ў газеце «Брестский курьер».

*Аляксандр ІЛЫН, г. Пінск*

# Старадаўнія прафесіі

*(Раздзелы з кнігі)*

## Гіцалі

Прафесія гэтая была не вельмі папулярная ў народзе. На вулічным жаргоне гэтых людзей называлі скуралупамі. Непапулярнасць гэтай прафесіі выяўлялася нават падчас лаянкі у спрэчках, звадках, калі нехта іншага мог назваць гіцалем.

Перыядычна на гарадскіх вуліцах з'яўлялася арыгінальная павозка з доўгаю скрыняй, сценкі якой былі абцягнутыя сеткай. Пабачыўшы яе, і стары і малы ведалі: гіцалі прыехалі – наперадзе лоў бадзяжных сабак. Для гэтага прымянялі доўгую палку з пятлёю на канцы. Злоўлены нічыйны сабака адразу ж аказваўся за кратамі ў кампаніі сабе падобных смяротнікаў. А што яны былі прысуджаныя да смерці, было дакладна і вядома ўсім у горадзе. Да гонару лунінчанаў, сярод іх не было гіцаляў-скуралупаў. Лавіць і забіваць лунінецкіх бадзяжных сабак прыязджаў чалавек з Пінска. Лунінчане называлі яго пінскім гіцалем і часам – проста гіцалем, чым падкрэслівалі, што ён не іх зямляк. Па нацыянальнасці ён быў палякам, таму скарыстоўвалася часам азначэнне «польскі гіцаль».

У пінскага гіцаля ў канцы Брадзіляўкі (цяпер – вуліца Сялянская) пры самым балоце была будыніна, куды ён адвозіў свой вулічны ўлоў і рабіў сваю справу.

У 30-я гады сухоты (чахотка) была распаўсюджанай хваробай. Ад чахоткі лячыліся сабачым тлушчам, таму ў гіцаля быў збыт тавару. А скуры ж скарыстоўваліся як і любая іншая скура забітага звера.

Даволі часта траплялі ў пастку не толькі бяздомныя сабакі, але і гаспадарскія, што выпадкова патрапіліся на шляху скуралупа. У даваенны (польскі) час усе гаспадарскія сабакі былі зарэгістраваныя ў магістраце, іх гаспадары плацілі спецыяльны сабачы падатак, і кожнай жывёліне выдавалася спецыяльная невялікая металічная бірка, на якой быў выбіты нумар і назва горада. Яна павінна была вісець на ашыйніку сабакі, калі ён быў не на ланцугу. Паліцэйскі мог зрабіць заўвагу або нават выпісаць штраф, калі нехта гуляў з сабакам без біркі.

Зазвычай гіцаль не павінен быў лавіць сабак з нумарамі на ашыйніку. Але ў сабачым жыцці здаралася ўсялякае. Калі знікаў гаспадарскі сабака пасля набегаў гіцаляў, уладальнікі ведалі, дзе шукаць згубу. За пэўны выкуп уласнасць вярталася ў родны двор.

## Непрэстыжная прафесія –

магільшчыка палай худобы. У перадваенныя гады ў гараджанаў было даволі шмат хатняй жывёлы – каровы, коні, козы, авечкі, свінні. А пакольскі «браты нашыя малодшыя» хварэлі і тагачасная ветэрынарная служба была на невысокім узроўні (не было лекаў для барацьбы з эпідэміямі і многімі захворваннямі жывёлы), падзёж быў звыклаю з'яваю. Была адмысловая пастанова магістрату, што забараняла закопваць палую худобу на тэрыторыі падвор'яў, а таксама ў бліжэйшых лясах ці палях. Скоцкія могілкі былі адведзеныя за тры кіламетры ад горада на ўзлеску урочышча Плоскі Лес (цяпер гэта раён завода «Палессеэлектрамаш»). Туды звозілі закопваць усю жывёлу. Займалася гэтым невялікая група магільшчыкаў, яны ж здымалі скуру з буйной жывёлы. Часам самі гаспадары вывозілі худобу, але такая магчымасць была не заўсёды. Усё рабілася за пэўную аплату.

*Леў КОЛАСАЎ*

(Пачатак у № 16)

(Працяг будзе)



# Дзве нявыдуманыя гісторыі

***Я, Вераціла Міхась Уладзімірвіч, 1937 года нараджэння. Нарадзіўся ў вёсцы Навасёлкі Ваўкавыскага павета Беластоцкага ваяводства. Беларус. Адукацыя сярэдняя. Краязнавец. Калекцыянер. Паэт, гісторык, археолаг, рэстаўратар, мастак, разбяр, народны лекар…***

***Друкуюся ў перыёдыцы са школы. Працаваў электрыкам, слесарам, мастаком-афармiцелем, маляром, лабарантам у археалагічных экспедыцыях НАН Беларусі. Цяпер на пенсіі, але працую загадчыкам Краснасельскага музея. Удзельнік Першага з'езда краязнаўцаў Беларусі. Хачу супрацоўнічаць з даўно чаканай «Краязнаўчай газетай».***

## Краснасельскі мамант

Хто такі мамант, сёння, напэўна, ведаюць усе, хто ходзіць ці хадзіў калі ў школу. Гэта, на жаль, вымерлая млекакормячая жывёла атрада хобатных сямейства слановых. Карацей – старажытны слон, пакрыты доўгай рыжай поўсцю. Жыў у Еўропе, Азіі і Паўночнай Амерыцы ў сярэднім і верхнім плейстацэне.

Плейстацэн (чацвярцічны, або антрапагенны перыяд (ад грэчаскага «антропос» – чалавек + «гэнос» – нараджэнне)) апошні, самы кароткі перыяд геалагічнай гісторыі Зямлі, які працягваецца і цяпер. Перыяд зараджэння чалавека. Чалавека-стваральніка і чалавека-знішчальніка.

Калі слон жыў у цёплай і багатай ежай Індыі ці Афрыцы, то маманту дасталася поўнач, снег, мароз і вечна галодны чалавек каменнага веку. Краманьёнец – амаль такі самы, як мы, але яшчэ больш галодны… Для яго мамант – гэта «гара мяса». І чалавек паляваў на маманта, гнаў яго на поўнач, пакуль не забіў апошняга… Можа, ім і быў наш – краснасельскі мамант?

Як толькі сыходзіць снег і пачынае прыграваць сонейка, брыгада азеляніцеляў Краснасельскага цэментнага завода бярэцца за рыдлёўкі і граблі. Трэба ўскапаць «залысіны» газонаў, дзе за зіму вымерзла трава, падвезці свежай зямлі, падсеяць траву, усталяваць кветкавыя клумбы… І так кожную вясну. Так было і сёлета. Ускапалі, разраўнялі, выграблі камяні. Прыйшоў майстар-азеляніцель засяваць «залысіны» і раптам у кучы заўважыў незвычайны камень… «Камень» аказаўся амаль цэлым карэнным зубам маманта. Памеры яго 150х75х170 мм.

Калі ёсць у наяўнасці зуб маманта, то, без сумніву, быў і носьбіт яго – краснасельскі мамант.

А знайшоў зуб краснасельскага маманта і перадаў яго ў музей аграном Сяргей Міхайлавіч Касіла – чалавек няўрымслівы і дапытлівы, з шырокім дыяпазонам зацікаўленасці. З ім можна цікава пагутарыць і пра кветкі, і пра беларускі вінаград, і пра ландшафтны дызайн, і пра гісторыю, і пра нумізматыку…

На тэрыторыі Беларусі рэшткі мамантаў (косці і зубы) знойдзены больш чым у 200 месцах, а найбольш на поўдні – у басейне рэк Дняпра і Сожа. А зуб аднаго з іх сёння можна пабачыць і ў Краснасельскім музеі.

## Займальная савецкая бюракратыя

Па сваёй «калекцыянерскай скваапнасці» (у дадатак да нумізматыкі і баністыкі) я збіраю яшчэ і грашовыя дакументы: квіты і квітанцыі, позвы, распіскі, заёмныя лісты ды іншыя «цэтлікі».

Па-першае, заспакойваю сябе, – у іх справа ідзе пра грошы, пра цэны, велічыні штрафаў, падаткаў, а таму і павінны яны знаходзіцца ў радыусе маёй калекцыянерскай зацікаўленасці.

Але, займаючыся разборкай і класіфікацыяй гэтых грашовых дакументаў, я раптам зрабіў для сябе цікавае адкрыццё. Адкрыў «Займальную савецкую бюракратыю». Судзіце самі. Вось дакумент, дасланы мне бабруйскім калекцыянерам Уладзімірам Бачковым.

«Гр. Овчаруку Косте
с. В – Кужелове

Минковецкий Райфинотдел сообщает Вам, что по Вашему лицевому счету № 167 по сельхозналогу за 1949 год числится переплата в сумме 70 руб. (…)»

Як на мой прымітыўны розум, то трэба было проста дастаць з сейфа гэтыя лішнія сем чырвонцаў і аддаць спадару Косцю. Але дзе ж там!.. Трэба спачатку стварыць цяжкасці, а потым па-геройску іх пераадольваць!

Такі і зрабілі.

«Для того, чтобы возвратитть Вам эту переплату, необходимо чтобы Вы подали в Райфинотдел заявление, в котором были бы указаны фамилия, имя и отчество Ваше, Ваш адрес, номер Вашего паспорта и кем он выдан, наименование налога, сумма предъявленная к уплате и номер платежного извещения, фактически внесенная сумма, сумма подлежащая к возврату.

Вместе з заявлением надо принести все квитанции об уплате налога.

Зав. райфинотделом (Кривой)
Ст. налоговый бухгалтер (Панченко)».

Не ведаю, як вам, а мне страшэнна хочацца даведацца, ці схадзіў спадар Косця па свае кроўныя сем чырвонцаў у райфінаддзел (і можа – у няблізкі свет)? А мо, проста плюнуў і сказаў: «Ды гарыце вы гарам!..»

Бо, як я памятаю, за маё навучанне, пачынаючы з восьмага класа сярэдняй школы, маёй маці трэба было плаціць за мяне (у 1951 г.) два разы на год па 75 рублёў (150 рублёў).

*Міхась ВЕРАЦІЛА*

***Пасля сустрэчы былых непаўналетніх вязняў фашызму з беларускімі дзецьмі, якіх Аўстрыя гасцінна прыняла на лячэнне ў сем'і, пачалося стварэнне кнігі «Аўстрыя далёкая і блізкая». Кніга выканана ў электроннай версіі. У яе ўвайшлі афіцыйныя матэрыялы МЗС Рэспублікі Беларусь, Пасольства Беларусі ў Аўстрыі, Беларускага рэспубліканскага фонда «Узаемаразуменне і прымірэнне», паведамленні дабрачынных арганізацый Беларусі і Аўстрыі і, вядома, успаміны былых вязняў фашызму, дзяцей, якім Аўстрыя працягнула руку дапамогі пасля чарнобыльскай аварыі, і ветэранаў, якія вызвалялі Аўстрыю ў гады вайны. Стварыць электронную версію кнігі дапамагла кафедра інтэлектуальных інфармацыйных тэхналогій Дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі і ЗАТ «Офісныя тэхналогіі», Беларускі рэспубліканскі фонд «Узаемаразуменне і прымірэнне», ААТ «Белая вежа».***

# «Аўстрыя ў маім лёсе»

Першая частка кнігі завершана, але ўспаміны працягваюць паступаць. Таму мы вырашылі зрабіць і другую частку кнігі, аснову якой складуць успаміны тых, чый лёс у гады вайны перасёкся з Аўстрыяй. Запрашаем прыняць удзел у конкурсе «Аўстрыя ў маім лёсе» нашых замежных суайчыннікаў. Успаміны можна дасылаць па электроннай пошце: nat_aust@mail. ru ці па адрасе: 220086, г. Мінск, вул. Калiноўскага, 42–24. Паляковай Наталлі Георгіеўне. Лепшыя ўспаміны ўвойдуць у зборнік «Аўстрыя ў маім лёсе».

З матэрыяламі першай часткі кнігі можна азнаёміцца на сайце www.artpease.by у раздзеле «Аўстрыйскія замалёўкі», а новыя матэрыялы будуць змешчаны на гэтым жа сайце, толькі ў раздзеле «Музыкальна-літаратурны салон».

Урывак з кнігі.

«Мой лёс звязаны з Аўстрыяй з часоў Вялікай Айчыннай. Разам з маці Настассяй Каленік і бабуляй Аляксандрай Піровай у 1943 годзе я трапіла ў лагер горада Ротэнмана.

У час вайны маці дапамагала партызанам лекамі, але нехта яе выдаў. Нас паспеў папярэдзіць нямецкі афіцэр Палоній, тым самым выратаваў нам жыццё. Але па дарозе мы трапілі ў абламу і былі адпраўлены ў Германію, затым у Аўстрыю.

Самым яркім уражаннем аб знаходжанні ў лагеры для мяне была дабрыня аўстрыйскіх хлопчыкаў. Хоць мы (у лагеры былі дзве шасцігадовыя дзяўчынкі) і біліся з імі, яны кідалі нам цацкі і дзяліліся ежай. Англічане, французы і італьянцы па лініі Чырвонага Крыжа атрымлівалі пасылкі і таксама дзяліліся прадуктамі. На ўсё жыццё запомнілася дзіцячая дабрыня і спачуванне.

Даўно няма ні бабулі, ні мамы. Доўг «плаці дабром за дабро» застаўся за мной. Я ўжо на пенсіі, шмат свабоднага часу, таму пачала супрацоўнічаць з Беларускім рэспубліканскім фондам "Узаемаразуменне і прымірэнне". Сустракаючыся з сотнямі былых вязняў фашызму, я даведалася не толькі пра жахі вайны, але і пра людзей, якім улаcцівы высокія духоўныя якасці. Яны ў цяжкі час дапамагалі адзін аднаму, рызыкуючы жыццём.

У фондзе я сустрэлася з некаторымі вязнямі з Аўстрыі. Там даведалася, што не толькі мне кідалі цацкі і давалі ежу аўстрыйскія хлопчыкі. Віктару Цыганкову кідалі праз дрот хлеб, а чатырохгадовай сястры Георгія Цвірко – ляльку. У Аўстрыі беларускія салдаты накармілі галоднага хлопчыка, і ён марыў убачыць Беларусь, калі вырасце. Рудзі Ручычка праз шмат гадоў не толькі паznаёміўся з Беларуссю, але і стварыў фонд «Дапамога Мінску», каб дапамагчы дзецям пасля чарнобыльскай бяды.

І зноў лёс звёў мяне з Аўстрыяй праз дзяцей, якім яна працягнула руку ў самы цяжкі перыяд іх жыцця…»

*Наталля ПАЛЯКОВА*
*«Голас Радзімы»*





# У кожнага свой шлях да Беларусі

*(Заканчэнне. Пачатак у № 32)*

Адгукнулася і замежжа. Наш суайчыннік з Англіі Анджэй Цеханавецкі перадаў у дар БФК слуцкі пояс (шоўк, залатыя ніці, ткацтва). Цяпер гэта – адзіны «поўны» слуцкі пояс на ўсю Беларусь. Знаходзіцца ён у музеі старажытна-беларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі. А яшчэ ён перадаў старадрук для Полацкага музея гісторыі беларускага кнігадрукавання. Пазней ім даравана акварэль А. Вайндортэна «Від замка князя Радзівіла». Грамадзянін Польшчы Юзэф Шыманчык, які гасцяваў у рэспубліцы, перадаў БФК 82 здымкі этнаграфічнага характару (Заходняя Беларусь 20–30-х гадоў). А зямлячка з ЗША – тысячу даляраў для набыцця карціны мастацкаму музею рэспублікі. Польская пісьменніца Надзея Бітэль-Дабжынская падаравала ксеракопіі: 47 малюнкаў свайго брата – мастака з Гродзеншчыны Льва Дабжынскага.

Усяго ж у дар Фонду паступіла ўжо звыш ста мастацкіх твораў. Усе яны, згодна з палажэннем і воляй дарыцеляў, перададзены ў музеі, бібліятэкі, школы, дзіцячыя дамы, культурныя ўстановы рэспублікі.

Пры БФК мы стварылі клуб калекцыянераў. Пачалі арганізоўваць выстаўкі, якія пацвердзілі наша прадбачанне: у прыватных калекцыях сканцэнтраваны значныя багацці.

Наогул, выстаўкі, якія арганізоўваліся БФК, выгадна адрозніваліся сваёй тэматычнай нечаканасцю. У мінскім Палацы мастацтваў у чэрвені 1988 г. дэманстравалася выстаўка «Каштоўнасці, вернутыя народу». З Брэсцкай і Гродзенскай мытняў з дапамогай МУС БССР мы прывезлі творы мастацтва, якія былі адабраны на мытнях у час спробы пераправіць іх рабаўнікамі за мяжу. Надзвычайная цікавасць была праяўлена да выстаўкі. А ўжо ў верасні таго ж года ў Дзяржаўным мастацкім музеі адбылася выстаўка твораў рускіх мастакоў, якія падараваў Савецкаму фонду культуры амерыканскі прадпрымальнік Арманд Хамер. Звыш 15 тысяч наведвальнікаў сабрала гэтая выстаўка. Не ведалі мы тады яшчэ пра хцівасць і рабаўніцкі спрыт гэтага амерыканскага дзялка, які ў цяжкі для краіны пасляrэвалюцыйны час за бясцэнак выпатрашыў ленінградскія і маскоўскія (ды ці толькі гэтыя) музеі, а потым гандляваў незлічоным багаццем твораў рускага мастацтва за акіянам.

Ці такія тэматычныя выстаўкі са збораў нашых калекцыянераў: «Францыск Скарына і яго час», «Беларуская народная кераміка». Адбылася выстаўка абразоў і малой пластыкі з асабістага збору таго ж Анатоля Бачкарова, якую наведаў мітрапаліт Філарэт. Цікавасць выклікала выстаўка адной карціны А. Марачкіна «Размова аб вечнасці. Скарына і Парацэльс», а таксама «Сямейная выстаўка Арлена Кашкурэвіча і яго сыноў «FAMILIA».

З першапачатковых акцый можна прыгадаць такія: фонд стаяў ля вытокаў стварэння Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, Беларускага краязнаўчага таварыства, таварыства народных майстроў, асацыяцыі фалькларыстаў і этнографаў і г.д. Ім аказвалася як маральная, так і матэрыяльная дапамога, а іх станаўленню і развіццю спрыяла плённая дзейнасць многіх былых актывістаў фонду, якія засяродзілі сваю грамадскую працу ў такіх таварыствах і асацыяцыях.

Першай пры Фондзе была створана камісія «Вяртанне і захаванне нацыянальных культурных каштоўнасцей». Яна дзейнічае паспяхова і сёння. Камісія працавала пры маім аддзеле, і гэтая ўдзячная справа захапіла мяне поўнасцю і незваротна. Як кажуць, я зноў сябе знайшоў. Пашанцавала на людзей, якія ўвайшлі ў склад камісіі. Узначаліў яе ўжо добра вядомы сярод навуковай грамадскасці даследчык мінуўшчыны, загадчык сектара Інстытута літаратуры імя Я. Коласа, пісьменнік, былы журналіст Адам Мальдзіс. Вельмі ж зацікаўленымі гэтай праблемай аказаліся і члены камісіі: намеснік начальніка Галоўархіўупраўлення пры Савеце Міністраў БССР Аляксандр Міхальчанка, навукоўцы Надзея Высоцкая, Мая Яніцкая, Леў Пбаль, Ала Ванькoвіч, бібліятэчныя работнікі Галіна Алейнік, Таццяна Рошчына, Анатоль Фурс, мастак-графік Эдуард Агуновіч і іншыя.

Камісія збіралася штомесячна. Цікавыя паведамленні па пытаннях вяртання культурных нацыянальных каштоўнасцей ішлі адно за другім, вызначаліся канкрэтныя захады. Гэта быў цалік, непачаты нікім неруш. Раней мы саромеліся, а можа, і баяліся гаварыць пра свае правы на тыя беларускія багацці, што знаходзіліся ў іншых краінах, асабліва ў Расіі і Украіне. Такія патрыятычныя памкненні нярэдка характарызаваліся як праявы нацыяналізму. А тым часам наша нацыянальная спадчына надзвычай багатая, не горшая і не меншая, чым у любога народу свету. Мы можам па праву ганарыцца вялікай разнастайнасцю сваіх гісторыка-культурных каштоўнасцей. На вялікі жаль, рабаваліся і руйнаваліся гэтыя каштоўнасці падчас вялікіх войнаў, сацыяльных катаклізмаў, бесперапынных ліхалеццяў, якія вельмі часта выпадалі на гаротную долю нашага народа. Так званыя пераможцы-рабаўнікі не саромеліся прысвойваць гэтыя каштоўнасці, вывозіць далёка за межы Беларусі і гандляваць імі.

«Раскід» нашага нацыянальнага багацця, якое асела на іншаземных тэрыторыях, надзвычай стракаты. Тут і Швецыя, і Германія, і Польшча, і Літва, і Аўстрыя, і, безумоўна, Расія.

Але будзем самакрытычнымі. Вялікую шкоду нанесла і заганная практыка абыякавасці ў адносінах да гісторыка-культурнай спадчыны, якая панавала ў нашым жыцці доўгія гады. Мы ўсё гэта бачылі, назіралі і часта маўчалі. А той голас, які іншы раз прараздаўся, патанаў у прававой немачы.

Розныя накірункі ў дабратворнай дзейнасці камісіі. Пачалі са складання картатэкі тых твораў, той маёмасці, якая вывезена з Беларусі, каб напачатку ведаць, дзе што ляжыць. Накіравалі пісьмы ва ўсе музеі і архівы рэспублікі, суайчыннікам за мяжой з просьбай даслаць патрэбныя дакументы на гэтую тэму. Члены камісіі неаднаразова ездзілі па адрасах вывезенага. Я пабываў у Ленінскай бібліятэцы ў Маскве. Удалося арганізаваць адтуль дзве пасылкі кніг (каля сотні) рознага перыяду для Полацкага музея беларускага кнігадрукавання. Сабралі дакументы на права вяртання з Кіева знакамітага кнігазбору Храптовічаў. Пачалі пошук нацыянальнай рэліквіі – Крыжа Ефрасінні Полацкай, нават Інтэрпол да гэтага падключылі. Праз фонд «Халакост» (Вашынгтон) набылі архіўныя дакументы аб падзеях часоў акупацыі Беларусі ў гады Другой сусветнай вайны. Сумесна з архіўным упраўленнем выдалі даведнік «Дакументы па гісторыі Беларусі, якія зберагаюцца ў цэнтральных дзяржаўных архівах СССР». З дапамогай спонсара – камерцыйнага банка «Беларусь» выкупілі ў расійскім архіве кінафотадакументы аб падзеях у жыцці даваеннай Беларусі. Праведзена поўнае мікрафільміраванне фондаў «Літоўская метрыка», якая знаходзіцца ў Маскве. Выклалі свае прапановы Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь аб ушанаванні памяці беларускага мастацтвазнаўцы М.М. Шчакаціхіна...

Тым часам у камісію «Вяртанне» паступіла ў адказ на наш запыт многа матэрыялаў рознага кшталту: спісы вывезеных каштоўнасцей, архіўныя дакументы, дакладныя запіскі і г.д. Я прапанаваў усё гэтае фактычнае багацце выдаць асобнай кнігай. У склад рэдкалегіі ўвайшлі: Н.Ф. Высоцкая, А.В. Мальдзіс, А.М. Міхальчанка, Т.І. Рошчына, А.А. Тоўсцік, М.М. Яніцкая. Адчувалася, што ўсю гэтую работу час ужо ставіць на дзяржаўную, прававую аснову. Разумелася пры гэтым як планаванне такой дзейнасці на заканадаўчым узроўні, так і выдзяленне адпаведных дзяржаўных сродкаў на ажыццяўленне навуковых праграм. Адпаведны ліст з прапановамі накіравалі на імя старшыні ўрада. У хуткім часе была створана рэспубліканская камісія па гэтым важным пытанні. Яе ўзначаліў міністр культуры Я. Вайтовіч. Але, як заўсёды, беларусы «не дацягнулі». На Украіне па аналагічных праблемах быў утвораны самастойны камітэт пры ўрадзе. У нас зэканоміліся, перадалі ўсё ў падначаленне міністру культуры, у якога і сваіх спраў хапае па завязку. І нічога пэўнага на атрымалася. Усё «павісла» ў паветры...

Зборнік «Вяртанне», які выйшаў тыражом у тысячу асобнікаў (каля 15 ум.-друк. аркушаў), хутка разышоўся сярод актыву, па бібліятэках, музеях, быў накіраваны ў зацікаўленыя арганізацыі, трапіў у нашы пасольствы, да суайчыннікаў, што пражываюць у блізкім і далёкім замежжы. Нават у нямецкі горад Брэмен, з якога прыйшло запрашэнне прыехаць, каб дамовіцца з мясцовымі энтузіястамі па вяртанні таго, што калісь іх суайчыннікі нарабавалі на акупіраваных тэрыторыях.

У мяне ж па-ранейшаму было многа клопатаў па праграме «Вяртанне». Узяліся за падрыхтоўку да друку другога зборніка дакументаў на гэтую ўдзячную тэму. Знайшоўся і спонсар – надзвычай інтэлігентны прадпрымальнік, прыхільнік адраджэння нацыянальнай культуры (а гэта ж, як бачна, вельмі рэдкая з'ява сярод «новых беларусаў»), член прэзідыума БФК, кіраўнік эксперыментальнага комплекснага прадпрыемства «Светач» Андрэй Васільевіч Вірчак. Зборнік і ўбачыў свет у друкарні гэтага прадпрыемства. Час ішоў, жыццё ўносіла рашучыя папраўкі і ў практычную работу Фонда, патрабуючы дакладнасці яго пазіцыі. Прэзідыум не пагадзіўся з меркаваннямі і пажаданнямі некаторых актывістаў, каб цалкам уцягнуць Фонд у вір палітычнай дзейнасці, якая разгарнулася тады ў рэспубліцы і не затухае і сёння. Але гэта зусім не азначала, што Фонд заставаўся па-за палітыкай. Была б яна канструктыўнай – адзінае патрабаванне. З улікам тымчасовых акалічнасцей БФК выйшаў з падпарадкавання Савецкаму фонду культуры і заявіў аб самастойнасці, а ў сваім статуце на чарговай канферэнцыі запісаў, што не прымае ніякага шкоднага, антыканструктыўнага ўплыву любой партыі. Мітынгоўшчына не заварожвала супрацоўнікаў і актывістаў фонду. Мы стараліся рабіць канкрэтныя справы па адраджэнні нацыянальнай культуры.

***...Пачаўся неадольны працэс вяртання да вытокаў сваіх. Рады прыхільнікаў гэтай гістарычнай справядлівасці памнажаюцца. Я ўдзячны лёсу, што вецер перамен «прыбіў» і мой човен да гэтага прычалу.***

*Аркадзь ТОЎСЦІК*



*Адзін з эпізодаў свята у г.п. Копысь, якое ў чэрвені 1996 года правёў Беларускі фонд культуры*

# Верасень

**Турчыновіч Восіп (Іосіф Цэзар) Вікенцьевіч** (1824 – ?), вучоны-гісторык, правазнавец, паходзіў са шляхты Магілёўскай губерні – 180 гадоў з дня нараджэння.

4 – **Доўнар (Доўнар-Запольскі) Ігнат Гіляравіч** (1829, Уздз. р-н – 1865), удзельнік рэвалюцыйнага руху на Беларусі 1-й пал. XIX ст., музыкант – 175 гадоў з дня нараджэння.

7 – **Карыцкі Міхал** (1714, Лід. р-н – 1781), паэт, педагог, грамадскі дзеяч – 290 гадоў з дня нараджэння.

10 – **Глебаў Яўген Аляксандравіч** (1929–2000), кампазітар, педагог, акадэмік Міжнароднай Славянскай Акадэміі навук, адукацыі, мастацтваў і культуры, народны артыст Беларусі і СССР, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1970 г.) – 75 гадоў з дня нараджэння.

12 – **Матукоўскі Мікалай Ягоравіч** (1929, Расон. р-н – 2001), драматург, журналіст, заслужаны работнік культуры Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1988 г.) – 75 гадоў з дня нараджэння.

15 – **Кашкурэвіч Арлен (Арсен) Міхайлавіч** (1929, Мінск), графік, народны мастак Беларусі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1972 г.) – 75 гадоў з дня нараджэння.

17 – **«Агатка, ці Прыезд пана»,** камічная опера Я.Д. Голанда, першы вядомы арыгінальны музычна-сцэнічны твор, створаны і пастаўлены на Беларусі (1784) – 220 гадоў з дня прэм'еры.

19 – **Ігнацьеў Руф Гаўрылавіч** (1829-1886), расійскі вучоны-гісторык, археолаг, этнограф, музыказнавец, харавы дырыжор, даследаваў гісторыю і культуру Беларусі – 175 гадоў з дня нараджэння.

20 – **Слонімскі раённы краязнаўчы музей** (1929) – 75 гадоў з часу заснавання.

20 – **Гродзенская вобласць** (1944) – 60 гадоў з часу ўтварэння.

# Сусветны дзядзінец

**1501.** Амерыга Веспучы адпраўляецца ў падарожжа на Захад (у ходзе падарожжа ён высвятляе, што Калумб адкрыў новы кантынент).

**1637.** Кардынал Рышэлье займаўся не толькі дзяржаўнымі справамі і плёў інтрыгі, з якімі даводзілася змагацца мушкецёрам. У вольны час яго праасвяшчэнства захапляўся вынаходніцтвам. Маючы на ўвазе сваіх ворагаў, ён загадаў закругліць усе кінжалы, якія выкарыстоўваліся за ядой для наразання мяса, і стварыў такім чынам сталовы нож.

**1803.** У плаванне адпраўляецца першая руская кругасветная экспедыцыя. Шлюпам «Надежда» камандуе Іван Фёдаравіч Крузенштэрн, а «Невой» – Юрый Фёдаравіч Лісянскі.

**1867.** Амерыканскі кангрэс зацвердзіў дагавор з Расіяй аб куплі Аляскі.

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

БАБРУЙСК – горад, цэнтр Бабруйскага раёна, порт на рацэ Бярэзіна. За 110 км ад Магілёва, чыгуначны і аўтамабільны вузел на многія гарады. У канцы XX ст. жыло каля 230 тыс. чалавек.

Узнік у сутоку р. Бярэзіна і Бабруйка як вёска (летапісны Бобровск, Бобруеск, Бобрусек), жыхары якой займаліся рыбалоўствам і бабровым промыслам. Першае пісьмовае ўпамінанне каля 1387 года. У ВКЛ цэнтр воласці, з 1566-га– староства Рэчыцкага павета, уладанне вялікага князя. У XVI–XVII стст. размяшчаўся на правабярэжнай частцы Бярэзіны, на ўзвышшу быў абарончы драўляны замак– няправільна авальны, абнесены земляным валам, на якім узвышаліся драўляныя абарончыя сцены з вежамі і вежай-брамай, абкружаны каналам. Галоўны будынак у ім – 2-павярховы драўляны палац з галерэяй, вялікай сталовай і шэрагам жылых пакояў, дзе былі грубкі і каміны, службовыя памяшканні, гаспадарчыя пабудовы. Замак зруйнаваны ў 1649 г. пры задушэнні паўстання гараджан, пазней быў адноўлены і ўмацаваны. Каля яго ўзнікла гандлёвая плошча, дзе стаялі царква Мікалая, касцёл Пятра і Паўла са шпіталем, замкавы сад, дамы рамеснікаў і гандляроў. У 1620-м было 15 вуліц і 2 завулкі, 409 дамоў, 75 крам. Ад цэнтра адгаліноўваліся вуліцы Свіслацкая на паўночны захад, дзе былі касцёл і кляштар езуітаў, царква Прачыстай багародзіцы (1-ая палова XVI ст.) і Парыцкая на паўднёвы захад за раку Бабруйка. У паўднёва-ўсходняй частцы быў асобны комплекс старасцінскага двара, абнесены астрогам («каралеўскі двор»), які існаваў з 2-й паловы XVI ст. да 1649-га як адміністрацыйны цэнтр Бабруйскага староства. У цэнтры яго быў вялікі драўляны двор на 7 падклецях са службовымі памяшканнямі. Была галерэя, лесвіца на яе, накрытая 2-схільным дахам. У жылой частцы – вітальня, сталовая, 6 камор і 4 жылыя пакоі з камінамі і печамі з рознакаляровай паліванай кафлі. Каля ўязных варот – жыллё для слуг, кухня, пякарня. За абнесеным астрогам дваром – стайня з вазоўняй і бровар, на Бабруйцы – млын.


*Інтэрнацыянальнай*

Бабруйск разбураўся і ў 1665 г. у час вайны з Росіяй, у выніку чаго заняпаў, пераўтварыўся ў мястэчка. У 1793-м уключаны ў склад Расійскай імперыі. Праз тры гады цэнтр павета (каля 200 дамоў), меў герб – карабельная мачта, якую крыж-накрыж перасякаюць два бервяны. На пачатку XIX ст. перабудоўваўся па-новаму, у духу царскай палітыкі. У 1807–1836-х узведзена крэпасць (бастыёны, вежы, форт, вуліцы, жылыя дамы, парадная Саборная плошча з домам каменданта, шпіталь, штаб, сабор А. Неўскага, казармы, склады, артылерыйскі і інжынерны палкі). У вайну з Напалеонам крэпасць стрымлівала націск яго войск. У ёй спелі паўстанцкія планы дзекабрыстаў. У Вялікую Айчынную вайну фашысты ўтварылі тут лагер смерці, дзе загубілі больш за 60 тысяч савецкіх грамадзян і ваеннапалонных.

У 1897 г. у Бабруйску было 35,2 тысячы чалавек, на пачатку XX ст. – 19 фабрык і заводаў, 191 рамесная майстэрня. У цэнтры пачалі шырыцца мураваныя жылыя і грамадскія будынкі (гімназія, банк, асабнякі), на акраінах пераважалі драўляныя будынкі. З 1924-га цэнтр раёна, у 1924–1930-м – цэнтр акругі. З 1938-га – горад абласнога падпарадкавання. У 1944–1954-м цэнтр Бабруйскай вобласці.

У савецкі час развіваўся паводле генплана 1966 г., але крэпасць засталася кампазіцыйным ядром, цэнтрам горада. У індустрыі горада паспяхова шырылася хімічная, дрэваапрцоўчая прамысловасць, машынабудаванне, развіты лёгкая і харчовая прамысловасць, вытворчасць будматэрыялаў.

У Бабруйску здаўна развівалася культурнае жыццё. Так, у 1760 г. пры езуіцкім калегіуме пачаў дзейнічаць школьны тэатр. У XIX ст. гастралявалі польскія і рускія тэатральныя трупы, у 1852-м мінскія аматары паказвалі тут музычную камедыю «Ідылія» В. Дуніна-Марцінкевіча, дзейнічалі розныя тэатральныя трупы ў савецкі час. Музычнае жыццё фарміралася ў асноўным вакол музычных навуковых установ. У 1892 г. быў заснаваны музычна-драматычны гурток, які меў на ўвазе дэмакратычныя і культурна-асветныя мэты. На пачатку 1920-х працавала народная кансерваторыя, з 1927-га – музычная школа (звязана з дзейнасцю Я. Цікоцкага, сярод яе выпускнікоў – кампазітар У. Алоўнікаў), развівалася мастацкая самадзейнасць. У 1944–1949 гадах працаваў тэатр музкамедыі, які ў 1965–1970 быў Магілёўскім абласным тэатрам музычнай камедыі. З 1970-га працуе Магілёўскі абласны тэатр драмы і камедыі. Ёсць музычныя школы, самадзейныя калектывы.

У 1924 г. у Бабруйску заснаваны краязнаўчы музей. Сёння тут экспануюцца шматлікія прадметы археалогіі, нумізматыкі, побыту і этнаграфіі, творы мастацтва, ёсць персанальныя фонды пісьменнікаў, дзеячаў культуры, якія нарадзіліся альбо працавалі на Бабруйшчыне (В. Дунін-Марцінкевіч, М. Лынькоў, П. Галавач, П. Панчанка, Б. Мікуліч, М. Аўрамчык, У. Алоўнікаў, Я. Цікоцкі, Ї. Балоцін, У. Уладамірскі, Ц. Сяргейчык, С. Талкачоў, А. Кавалёў, Я. Мільчын). У Бабруйску развіты мясцовы друк.







# Калі на Беларусі з'явілася пісьмо?

***Археолаг Г. Татур яшчэ ў канцы XIX стагоддзя паведамляў пра знаходку каменнай пліты, «пакрытай незразумелымі буйнымі надпісамі ў некалькі радкоў, высечанымі выразна і глыбока», каля мястэчка Пагост у цяперашнім Бярэзінскім раёне.***

У Бабруйскім павеце, недалёка ад ракі Пціч, згодна з інфармацыяй гэтага ж аўтара, знаходзіўся камень, на якім надпіс складаўся з літар «накшталт птушыных лапак». Камень з надпісамі, зробленымі літарамі невядомага алфавіта, выяўлены каля вёскі Пнеўшчына Горацкага раёна. Пазней гэты камень загінуў пры пажары. Яшчэ адзін загадкавы надпіс быў зафіксаваны на камені ля вёскі Сынкавічы пад Зэльвай. На сярэдневечным медальёне-змеевіку з Ваўкавыска, акрамя выяваў, па крузе відаць нейкія літарападобныя знакі. Ніводзін з гэтых надпісаў яшчэ не прачытаны.

На месцы старажытнабеларускага горада Дарагічына (зараз на Беласточчыне) даследчыкі сабралі сотні свінцовых пломбаў (напэўна, гандлёвых пячатак X–XVI стагоддзяў), якія засталіся ад колішняй мытні, «варотаў на Захад». На адным баку некаторых з гэтых пломбаў стаіць літара кірыліцы, на адваротным баку – адзін з загадкавых знакаў.

На гарадзішчы Маскавічы каля Браслава ў пластах XII–XIII стагоддзяў, акрамя скандынаўскіх рунічных надпісаў на костках, знойдзены праселкі з літарападобнымі знакамі, якія, паводле класіфікацыі кіраўніка раскопак Л.Дучыц, падраздзяляюцца на 43 віды (гэта супадае з колькасцю літар у кірыліцы). Аналагічныя ім вядомы на рэчах з раскопак Менска, Ваўкавыска, Гродна, Ерсікі, Ноўгарада.

Помнікі нейкага загадкавага пісьма ёсць і за межамі Беларусі, аднак у арэале сярэдневяковай беларускай народнасці. Пяць надпісаў паходзяць з Вільні: на бяросце IX стагоддзя, выяўленай у Старым арсенале Ніжняга замка, на костцы з таго ж арсенала (канец XI–XII стагоддзяў), на трох цаглінах канца XIII – першай паловы XIV стагоддзя з касцёла святога Мікалая. Яшчэ адзін кароткі надпіс з чатырох знакаў вядомы на камені з ваколіц мястэчка Кернава (каля 30–35 кіламетраў на паўночны захад ад Вільні). Вітаўтас Рымша, які апублікаваў гэтыя шэсць надпісаў, зрабіў спробу іх дэшыфроўкі, але яе нельга прызнаць пераканаўчай з-за недасканаласці методыкі. В.Рымша пры расшыфроўцы кожнага знака эклектычна падбіраў знешне падобныя адпаведнікі ў самых розных старажытных алфавітах: кірылічным, лацінскім, грэчаскім, фрыгійскім, фінікійскім, пісьме з вострава Лемнас і іншых. Таму недаказанай застаецца і яго выснова наконт прыналежнасці надпісаў этнічным літоўцам. Але затое вядомы факт даволі ранняга з'яўлення на Віленшчыне крывічоў, а потым беларусаў.





Яшчэ ў даваенны час археолагі У.Галубовіч і А.Цэгак-Галубовіч праводзілі раскопкі самай старажытнай часткі Вільні – Крывога горада, дзе ў пластах XII–XIII стагоддзяў засведчылі дамінаванне славянскіх знаходак. У «Спісе рускіх гарадоў дальніх і бліжніх» (канец XIV стагоддзя) сярод іншых усходнеславянскіх гарадоў названы Вільня і Кернаў. Таму не пазбаўлена падстаў гіпотэза, што тыя надпісы пакінуты продкамі беларусаў, славянамі або славянізаванымі балтамі, значная частка якіх на Віленшчыне да Крэўскай уніі заставалася паганцамі і магла карыстацца не кірыліцай, а сваёй дахрысціянскай сістэмай пісьма.

Звяртае ўвагу тое, што ўсе вышэйапісаныя надпісы выяўлены пераважна ў паўночнай частцы старажытнай тэрыторыі ўсходніх славян, асабліва ў арэале крывічоў. Гісторык А. П'янкоў у сваёй кнізе «Паходжанне грамадскага дзяржаўнага ладу старажытнай Русі» нават выказаў меркаванне, што існаваў Крыўскі племянны саюз, у склад якога, акрамя ўласна крывічоў, уваходзілі таксама дрыгавічы, радзімічы, вяцічы і северане.

Хоць ранейшыя спробы дэшыфроўкі яшчэ не далі пэўных вынікаў, усё ж амаль у кожнай з іх маецца нейкае рацыянальнае зерне. Можна дапусціць, што адзінай сістэмы пісьма не існавала, а ў розных плямёнаў былі свае алфавіты.

***Эдвард ЗАЙКОЎСКІ,***
***гісторык***

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасная – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ПІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць свае прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 02. 09. 2004.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330 ад 27. 02. 2004 г.)
Заказ 1372.
Тыраж 1100.